НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

# Перапіс ВОЙСКА



## *Вялікага княства Літоўскага* 1528 *года*

## МЕТРЫКА
## Вялікага княства Літоўскага

**Кніга 523**

Кніга публічных спраў 1

Мінск
«Беларуская навука»
2003

УДК 930.22.94(476) «15»
ББК 63.3(4Беи)
П 26

Падрыхтавалі да друку:

кандыдат гістарычных навук **А. І. ГРУША**
кандыдат гістарычных навук **М. Ф. СПІРЫДОНАЎ,**
**М. А. ВАЙТОВІЧ**



Рэцэнзенты:

кандыдат гістарычных навук А. А. Скеп'ян
кандыдат гістарычных навук М. Ф. Шумейка

**УДК 930.22.94(476)«15»**
**ББК 63.3(4Беи)**



**ISBN 985-08-0557-9**

# "ПЕРАПІСЫ ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА" 1528, 1565, 1567 гг. ЯК ГІСТАРЫЧНАЯ КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Перапісы земскага войска Вялікага княства Літоўскага (далей — ВКЛ) XVI ст., хоць і складаюць адносна невялікую частку былога дзяржаўнага справаводства, уяўляюць найбольш значную і рэпрэзентатыўную крыніцу па гісторыі прывілеяваных, кіруючых эліт дзяржавы і па гісторыі ўсяго шляхецкага стану. Зразумела, далёка не ўсе аспекты тэмы высвечваюцца або нават закранаюцца ў гэтай крыніцы, тым не менш матэрыялы перапісаў багатыя, разнастайныя і, увогуле кажучы, унікальныя. Ніхто з даследчыкаў гісторыі шляхты, войска ВКЛ XVI ст., феадальнага землеўладання, дэмаграфічных працэсаў, што разгортваліся на неабсяжных прасторах княства, не можа абысціся без згаданых матэрыялаў.

Перапісы шляхецкага войска — досыць вядомы від афіцыйнага справаводства. Першыя падобныя перапісы, мабыць, узніклі неўзабаве пасля распаўсюджвання дзелавой пісьменнасці і фарміравання шляхецкага апалчэння яшчэ ў XV ст. У XVI—XVIII стст. перапісы войска ажыццяўляліся на рознай падставе, ахопліваючы адносна лакальныя ці больш шырокія вайсковыя фарміраванні. Згадкі аб такіх перапісах, аглядах, рэвізіях нярэдка сустракаюцца ў матэрыялах XVI—XVIII стст. Значна радзей праводзіліся агульнадзяржаўныя перапісы войска. Мабілізацыі ўсяго шляхецкага войска і адпаведнай дакументацыі надавалася асаблівае значэнне ў XVI ст., калі вызначаўся лёс ВКЛ у яго цяжкай і неспрыяльнай ваенна-палітычнай канфрантацыі з Вялікім княствам Маскоўскім, а шляхецкае войска яшчэ ў значнай ступені захоўвала свае ваенныя патэнцыі. З канца XVI ст. усё большую ролю пачынае адыгрываць рэгулярнае і наёмнае войска, заснаванае на прафесійным узроўні, якое мела адпаведную вывучку і добрую зброю. Да нашых часоў дайшлі тры перапісы войска ВКЛ XVI ст. у розным стане захоўвання. Ніводнага — поўнага, вычарпальнага.

Першы Перапіс — 1528 г. мае назву: "Ухвала на великом соиме Виленском, в року 1528, м(е)с(е)ца мая 1 дня, учиненая з стороны обороны земское, колко хто с Панов-Рад, врядников и всих обывателеи Великого княз(ства) Лит(о)вского з ыменеи своих ку службе военнои конеи ставити маеть".

Другі Перапіс — 1565 г. — нейкі час таксама знаходзіўся ў матэрыялах Метрыкі ВКЛ, з яго ў 1634 г. была знята копія. Менавіта яна дайшла да нашых часоў сярод манускрыптаў і дакументаў РНБ у Санкт-Пецярбургу: аддзел рукапісаў, Эрмітажны збор, сігн. E.IV. 82. Рукапіс аб'ёмам 122 аркушы мае загаловак: "Реестр попису войска господарского Великого князства Литовского, которое се пописовало збираты ы пописоваты в Ракове року от нароженя Сына Божого тысеча пятсот шестдесят пятого, месяца ьюлья девятого дня, за гетманства ы справы его милосты пана Миколая Радывила, воеводы троцкого, гетмана найвышшого Великого кня-

жства Литовского, старосты мерецкого, державцы лидзского ы сумилиского, а пописовано тое войско через мене, Михала Грыгоръевича Коледу, служебника его королевской милосты".

Трэці Перапіс — 1567 г. — яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. захоўваўся ў нясвіжскім архіве Радзівілаў: 912 аркушаў са старажытнай фаліяцыяй (51 аркуш незапісаны), не хапае часткі кодэкса пасля 904 арк. Рукапіс быў, здаецца, перапраўлены ў Варшаву ў канцы 30-х гадоў XX ст. разам з некаторымі іншымі матэрыяламі архіва. Зараз захоўваецца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве, AR VII, адз. зах. 83. Мае загаловак: "Лета Божего нароженья 1567 року. Попис войска земского Великого князства Литовского, которые збиралися за уфалою сойму Городенского на местцо, через листы короля его милости назначоное, к Молодечну, которому збиранью час был од короля его милости зложон на Семую суботу, недавно прошлую. А почали збирати и пописыватися в Красном Селе перед его милостью паном гетманом паном Григорьем Александровичом Ходкевича, паном виленским, гетманом наивышшим Великого князства Литовского, старостою городенским, державцою могилевским, через мене, служебника его милости Стефана Якимовича списано".

Усе тры Перапісы дапаўняюць адзін аднаго, хоць нават у комплексе не ахопліваюць усю тэрыторыю і шляхту ВКЛ. Што даюць згаданыя Перапісы ў крыніцазнаўчым аспекце для гісторыі Беларусі і ўсяго ВКЛ XVI ст.? Перш за ўсё гэтыя матэрыялы маюць першараднае значэнне для вывучэння праблем колькасці, сацыяльнага складу прывілеяваных саслоўяў ВКЛ, галоўным чынам — свецкіх феадалаў: шляхты, баяр-шляхты, але таксама некаторай часткі духоўнай іерархіі (біскупаў, епіскапаў, мітрапалітаў) і ненабілітаваных прадстаўнікоў даволі разнастайных груп насельніцтва, што выконвалі звычайна другарадныя службовыя функцыі. Пры пэўных умовах прадстаўнікі гэтых груп часам замяшчалі паўнапраўнага шляхціча, як правіла — вельмі дробнага або хворага. Другі спектр праблем, які таксама выразна прасвечваецца ў Перапісах, — гэта землеўладанне шляхты, у пэўнай ступені — духавенства, тэрытарыяльнае размяшчэнне маёнткаў, сацыяльная дыферэнцыяцыя іх уладальнікаў. Нарэшце Перапісы даюць апасрэдаваную магчымасць высветліць прыблізна агульную колькасць насельніцтва ВКЛ, Беларусі, Літвы, Украіны, гісторыка-тэрытарыяльных рэгіёнаў (так зв. Літоўскай Русі, "Літвы ўласцівай" і інш.), тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак — ваяводстваў, паветаў, зямель. Супастаўленне Перапісаў розных перыядаў дае магчымасць даследаваць эвалюцыю некаторых сацыяльных і дэмаграфічных працэсаў, у тым ліку працэс драблення шляхты, суадносіны розных па свайму этнічнаму паходжанню груп феадалаў ("рускіх" — пераважна беларускіх і ўкраінскіх, літоўцаў, татараў). Значны матэрыял даюць Перапісы і для вывучэння гістарычнай геаграфіі ВКЛ, асабліва на тэрытарыяльна-адміністрацыйным узроўні, тапанімікі, антрапанімікі, працэсаў фарміравання войска, яго структуры і ўзбраення.

З пункту гледжання тэрытарыяльнай рэпрэзентатыўнасці найбольшай паўнатой адрозніваецца Перапіс 1528 г.: першыя тры рэестры ахопліваюць асноўную знаць і арыстакратыю ВКЛ — "почот Панов-Рад их милости", г. зн. членаў паноў-рады, "врядников", гаспадарскіх дваран, "значнейшое шляхты", "почот" княжацкі; "почот" удоў княжацкіх, ваяводскіх, старосціных. Наступныя — павятовыя рэестры — рэгіструюць шляхту ваяводстваў Віленскага, Троцкага, зямлі Валынскай, паветаў палескіх (баяр пінскіх, клецкіх, гарадзецкіх, рагачоўскіх, кобрынскіх), зямель Полацкай, Віцебскай, Мсціслаўскай, Жамойцкай. Адсутнічае шляхта зямель Кіеўскай і Браслаўскай. "Маем перад сабой поўны спіс уладальнікаў рыцарскіх маёнткаў, — адзначыў Г. Лаўмянскі, — з падданым насельніцтвам. Нашмат горш зарэестравана дробная шляхта, якая служыла асабіста".

Прыкладна так жа структурна пабудаваны наступныя Перапісы. Цэнтральныя рэестры Перапісу 1565 г. ахопліваюць значнейшыхураднікаў ("дыгнітажаў"), паноў, магнатаў, князёў, "дворную" харугву (шляхту, што абслугоўвала гаспадарскі двор), далей ідуць ваяводскія і павятовыя "почты" — Кіеўскі, Віленскі, харугвы — Ашменская, Крэўская, Немежская, Лідская, Ге-

ранонская, Гядройцкая, Няменчынская, Майшагальская, Вілкамірская, Кернаўская, Анікшценская, Пунянская, Карклеўская, павет Троцкі — харугвы Берасцейская, Кобрынская, Пінская, Слонімская, Ваўкавыская, Васілішская, Астрынская, Конеўская, Радунская, Ейшышская, Троцкая, Суміліпіская, Ляпунская, Даўгоўская і Пералайская, Жыжморская, Высакадворская, Стоклішская, Аліцкая, Дарсунішская, Біршганская, Пуньская, Мерацкая, баяры гаспадарскія пераломскія, харугвы Гародзенская, Упіцкая, падляшскія — Бельская, Дарагіцкая, Мельніцкая — з парафіямі, павет Навагародскі, зямля Валынская. У адрозненне ад Перапісу 1528 г., дзе рэестры татарскіх сцягаў папярэднічаюць апісанню падляшскіх зямян, тут "Татаре литовские" (харугвы — Віленская, Троцкая, Навагародская) завяршаюць агульны перапіс.

Па сваёй паўнаце Перапіс 1565 г. найменш рэпрэзентатыўны, ахоплівае каля трэці шляхты, што зафіксавана ў Перапісе 1567 г. Хоць тут упершыню згадваюцца баяры Кіеўскай зямлі (але ж усяго дзве асобы), адсутнічаюць почты Жамойціі, Менскага і прыгранічных Полацкага, Мсціслаўскага, Віцебскага, Браслаўскага ваяводстваў. Частка названых зямель была занята войскамі Івана IV.

Аналагічны прагал высвечваецца і ў матэрыялах апошняга Перапісу — 1567 г. Не прадстаўлена шляхта Полацкага, Мсціслаўскага ваяводстваў, у Віцебскім і Кіеўскім улічана шляхта толькі Аршанскага (выстаўлены 7 коней) і Мазырскага з Оўручам (24 кані) паветаў. Пасля цэнтральных почтаў пералічваецца шляхта Віленскага, Ашмянскага, Вілкамірскага, Браслаўскага ("літоўскага"), Троцкага, Гародзенскага, Ковенскага, Лідскага, Упіцкага, Навагародскага, Слонімскага, Ваўкавыскага паветаў. Далей ідуць падляшскія паветы — Дарагіцкі, Мельніцкі, Бельскі — з выдзяленнем парафій і неверагоднай колькасцю дробнай шляхты, у адной групе з адным харужым улічваюцца коні Берасцейскага, Камянецкага, Кобрынскага паветаў, следам ідуць паветы Пінскі, Менскі, Аршанскі, Мазырскі, Валынь, Жамойція, татары "домовые" ВКЛ і агульны сумарыуш (падлік) усяго войска. Па сваім аб'ёме Перапіс 1567 г. больш чым у два разы пераўзыходзіць разам узятыя папярэднія, дзякуючы параўнальна больш падрабязнай інфармацыі аб маёнтках, зброі, непрапарцыянальна вялікаму прадстаўніцтву падляшскай шляхты.

Прынцыпы складання Перапісаў у значнай ступені абумоўліваюць магчымасці іх выкарыстоўвання па такіх названых ужо кардынальных праблемах, як характарыстыка структуры зямельнай уласнасці ВКЛ, у тым ліку Беларусі, Літвы, некаторых рэгіёнаў Украіны, вызначэнне сацыяльнага складу і прыблізнай колькасці свецкіх феадалаў, а таксама колькасці залежнага сялянства ва ўладаннях феадалаў. Ухвала вялікага вальнага сейма ў Вільні ад 1 мая 1528 г. прадпісвала, каб усе — "хто-колвек мает людеи своих в ыменях своих... з болших станов и до менших" — павінны выстаўляць з кожных васьмі служб пахолка (маладога добрага конніка) у адпаведным узбраенні. Аднак гэтая норма рэальна распаўсюджвалася толькі на магнатэрыю, паноў, заможную шляхту. Маса дробнай шляхты выстаўляла каня з няпоўнай нормы або станавілася сама, бо ўвогуле не валодала падданымі. У часы Лівонскай вайны шмат якія багатыя паны, "ураднікі", нават некаторыя духоўныя іерархі выстаўлялі дадатковыя почты — "особливе на ласку господарскую". Дыферэнцыяцыя пануючага саслоўя па яго сацыяльным статусе, землеўладанні, колькасці залежнага сялянства, яго эвалюцыя (на падставе Перапісаў 1528, 1565, 1567 гг.) прааналізаваны ў працах Е. Ахманскага, А. Грыцкевіча, Г. Лаўмянскага, М. Спірыдонава і іншых даследчыкаў. Перапісы паслужылі таксама крыніцай для прыблізнай ацэнкі этнічнага складу шляхты. Грунтуючыся на імёнах, прозвішчах і патронімах шляхецкіх родаў і іншыя звесткі ў Перапісах, даследчыкі лічаць, што большасць земскага войска ВКЛ складала беларуская і ўкраінская шляхта (у прапорцыях прыблізна 70:30%, або 60:40%, адкідваючы крайнія погляды). На тых жа пераважна метадычных падставах грунтуюцца разлікі, што тычацца канфесійнай арыентацыі шляхты. Перапісы сведчаць аб даволі прыкметнай колькасці літоўскай і польскай каталіцкай шляхты ў заходніх паветах Беларусі, у тым ліку на Падляшшы, і пераважна монаэтнічнай шляхце ў цэнтральных і ўсходніх ваяводствах.

Арганізацыя земскага войска ВКЛ прасочваецца ва ўсіх трох Перапісах, але як і вайсковы рыштунак больш падрабязна і цікава ў Перапісе 1567 г.

Большасць рыцараў ставілася на Перапісах на добрых канях, пакрытыя шлемамі з прылбіцамі, панцырамі, шчытамі (тарчамі). Асноўная зброя — рыцарскае кап'ё — "дрэўца", ашчэпы; пяхотнае суправаджэнне — драбы ўзбройваліся ручніцамі, рагацінамі, мячамі, аркебузамі. Своеасаблівасць рыцарскага рыштунку адбілася ў тэрміналогіі Перапісаў: некаторая частка шляхты, станавілася "па-гусарску", "па-казацку", "па-кашубску", — у перапісе жамойцкай шляхты 1567 г. упершыню нярэдка ўлічваецца масць баявых коней (гняды, вараны, рыжы і г. д.). Маламаёмасная дробная шляхта часам выстаўляла ў якасці коннікаў простых людзей, мужыкоў, мяшчан, "вырасткаў" (падлеткаў), пасынкаў, узброеных больш сціпла — кафтан, сагайдак (лук з колчаном), рагаціна, радзей — меч, сякера. Татары звычайна ўзбройваліся лукамі, шаблямі, сякерамі. Агульназемскія Перапісы войска ВКЛ добра дапаўняюцца іншымі дакументальнымі і наратыўнымі крыніцамі, у тым ліку лакальнымі абмежаванымі перапісамі вайсковых фарміраванняў, якія, на жаль, яшчэ недастаткова вывучаны даследчыкамі.

*Доктар гістарычных навук*
*Г. Я. Галенчанка*

# ПРАДМОВА

Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г. — адна з тых кніг архіва канцылярыі ВКЛ, якая надзвычай актыўна выкарыстоўвалася як крыніца інфармацыі: спачатку — юрыдычнай у практычных мэтах, затым — гістарычнай у мэтах навуковых.

У першыя гады свайго існавання Перапіс выконваў функцыю даведніка для вышэйшай улады, хто і ў якіх памерах павінен быў выконваць ваенную ("земскую") службу. У далейшым матэрыялы Перапісу 1528 г. абслугоўвалі інтарэсы шляхты, якая шукала ў ім доказы свайго высакароднага паходжання. Вядомыя, па крайняй меры, шэсць выпісаў з Перапісу і чатыры з яго матэрыяламі ўпісанні ў мясцовыя земскія кнігі і кнігу Трыбунала ВКЛ за XVII—XVIII стст. Супадзенне дат двух упісанняў — 12 красавіка 1796 г., 5 жніўня 1796 г. — дазваляе сцвярджаць, што іх з'яўленне было звязана з разборам шляхты, які праводзіўся на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, што ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Супадзенне ж дат трох выпісаў — 9 снежня 1635 г., 1 ліпеня 1639 г., 5 сакавіка 1641 г. — давядзецца яшчэ высветліць. Цалкам відавочна, што для доказу шляхецтва да Перапісу 1528 г. звярталіся і ў XVI ст. З нейкай невядомай дакладна мэтай у XVII ст. былі зняты копіі з асобных частак Перапісу для біржанскага (?) (спіс *Д*) і нясвіжскага (спіс *I*) архіваў Радзівілаў. Аб шырокім выкарыстанні даных Перапісу 1528 г. сведчаць шматлікія запісы і паметкі на аркушах рукапісу ў выглядзе тлумачэнняў, падкрэсленняў і розных значкоў. Некаторыя аркушы проста ўшпілены імі.

Матэрыялы Перапісу 1528 г. служаць крынічнай базай для гісторыкаў самых розных спецыялізацый. Перапіс 1528 г. з'яўляецца, напэўна, галоўнай крыніцай у вывучэнні колькасці насельніцтва ў ВКЛ у першай палове XVI ст., пралівае святло на структуру землеўладання, дазваляе вырашаць шэраг праблем гістарычнай геаграфіі і гісторыі родаў ВКЛ[1]. Магчымасці Перапісу 1528 г. далёка не вычарпаны. Улік, напрыклад, тэрытарыяльнага размеркавання архаічных імён дробнай шляхты (напр.: "Битовтя" (= Витовт ?), "Витень", "Гедмин", "Кестуцевич", "Любортович", "Товтвил", "Ягойлович" і інш.) паспрыяе рашэнню праблемы аб рэгіянальным паходжанні першых літоўскіх князёў. Звесткі Перапісу могуць папоўніць матэрыялы

[1] Напр.: Любавский. Сейм; Tarulis A. Didżiosios Lietuvos Kunigaikstios karo priewaliu (1528 m.) sarašo patikimumas statiskikai // Ekonomika (Ekonomistru Draugijos Żurnalas). 1936. T. 2; Conze W. Agrarverfassug und Bevölkerung in Litauen und Weissrussland // Teil 1: Die Hufenverfassung im ehemaligen Grossfürstetum Litauen. Leipzig, 1940; Грицкевич А. П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // Вопросы истории: Межведомственный сборник. Мн., 1978. Вып. 5; Менжинский В. С. Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском. (По материалам Переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3; Боряк. "Пописы земского войска"; Łowmiański H., 1998 і інш.

тых даследчыкаў, якія вывучаюць антрапонімы, у тым ліку дазволяць вывучыць ступень папулярнасці тых ці іншых асабовых імён на тэрыторыі ўсяго ВКЛ і яго асобных гістарычных абласцей. Вывучэнне націскаў (праўда, па арыгіналу, паколькі ў выданні знакі націскаў не ўзнаўляюцца і не агаворваюцца) дасць магчымасць устанавіць правільнае прачытанне тых ці іншых імён у XVI ст. (Згодна з Перапісам, напрыклад, у імёнах "Григорей", "Мартин", "Миколай", "Якуб" націск ставіцца на першым складзе, у імені "Станислав"– на другім). Гісторыкі і лінгвісты розных спецыялізацый знойдуць у Перапісе неабходную інфармацыю.

Цалкам Перапіс 1528 г. быў апублікаваны ў 1915 г. С. Пташыцкім у рамках серыі "Руская гістарычная бібліятэка" (т. 33). Пры ўсіх сваіх станоўчых якасцях на сёняшні дзень выданне С. Пташыцкага не можа задаволіць ні гісторыкаў, ні лінгвістаў. Унутраныя і знешнія прыкметы рукапісу былі апісаны сцісла. Пры передачы тэксту літары, якія выйшлі з ужытку, замяняліся на сучасныя; "ъ" і "ь", якія адсутнічаюць у тэксце, расстаўляліся пасля вынасных зычных без спецыяльнага абазначэння. Публікатар не знаходзіў патрэбным вылучаць унесеныя ў радок літары ў скарочаных пад цітлай словах, а таксама вынасныя літары і склады. Без увагі засталося дэкаратыўнае пісьмо рукапісу: вязь, і асаблівасці размяшчэння тэксту: калафоны. Тэкст перададзены не без памылак (хоць іх, трэба сказаць, няшмат). Не быў праведзены тэксталагічны аналіз помніка, у выніку чаго разам з першапачатковым тэкстам былі апублікаваны і пазнейшыя ўстаўкі і дапіскі (гл. "Перапіс ВКЛ 1528 г.: гісторыя стварэння"). Не ўсе выпраўленні ў тэксце рукапісу былі ўлічаны. Адсутнічаюць такія важныя кампаненты археаграфічнага выдання, як паказальнік імёнаў і геаграфічных аб'ектаў. Нарэшце, само выданне 1915 г. даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Усё гэта і схіліла публікатарскі калектыў узяцца за перавыданне гэтай важнай і каштоўнай гістарычнай крыніцы.

### Агульныя знешнія і ўнутраныя прыкметы рукапісу

Перапіс войска ВКЛ 1528 г. захоўваецца ў РДАСА ў фондзе 389 ("Літоўская метрыка"), адзінка захавання № 523. Рукапіс пераплецены. Крышкі пераплёту выраблены з кардона. Іх памер 30,7×19,5×0,4. Крышкі выходзяць за блок на 3—5 мм. Таўшчыня спінкі каля 5 см. Пакрыццё складовае. Спінка кнігі, левы край верхняй крышкі і правы край ніжняй крышкі абклеены скурай цёмна-бурага колеру, які займае на краі верхняй крышкі 3,5—4,2 см, на краі ніжняй крышкі 2,5—3,5 см. Гэта скура — вынік рэстаўрацыі пераплёту кнігі ў апошняй чвэрці XVIII ст. Для пакрыцця астатніх частак верхняй і ніжняй крышак выкарыстана скура карычневага колеру з пераплёту канца XVI — пачатку XVII ст. Гэта скура на верхняй крышцы аздоблена па верхнім, правым і ніжнім краях ціснёным раслінным арнаментам. Аналагічны арнамент размешчаны па ўсіх краях скуры канца XVI — пачатку XVII ст. ніжняй крышцы. На скураным пакрыцці ніжняй крышкі прастора ўнутры раслиннага арнамента разбіта цісненнем на некалькі вакон, якія ўваходзяць адно ў другое. Па краях унутранага акна ў прамавугольных рамках шырынёй 1,4 см размешчаны паясныя выявы біблейскіх персанажаў. Усяго такіх выяў 15. З іх пяць размешчаны на левым краі, тры — на верхнім, пяць — на правым і дзве — на ніжнім краі. Пад кожнай выявай надпіс. Аднолькавымі з'яўляюцца выявы: першая і пятая зверху на левым краі, першая злева на ніжнім, чацвёртая знізу на правым, трэцяя зправа на верхнім; другая зверху на левым, другая злева на ніжнім, верагодна, пятая знізу на правым; трэцяя зверху на левым, відавочна, другая знізу на правым і першая зправа на верхнім; чацвёртая зверху на левым, трэцяя знізу на правым, другая зправа на верхнім краі. Пад аднолькавымі выявамі: першай зверху на левым краю, і першай зправа на ніжнім краю выразна чытаецца DATAE; пад другой зверху на левым краю выразна чытаецца толькі першая літара D, другая — відавочна, E, трэцяя, відавочна — F. На чацвёртай выяве зверху на левым краі чытаюцца першыя тры літары: ECC. Аналагічныя выявы змешчаны, у прыватнасці, і на скураным пакрыцці

пераплётаў кніг Метрыкі 43, а таксама 224, 227[2] і 228. (Пад выявамі на пакрыцці кнігі Метрыкі 228 чытаюцца надпісы: ECCE A, DATA E, APARVI, DE FRUC. Кніжныя пераплёты, якія аздабляліся цісненнем калонак з біблейскімі персанажамі і лацінскімі надпісамі ECCE AGNYS DEI QUI TOLLIT PECCATA MUNDI DATA EST MICHI OMNES DE FRVCTV VENTRIS APARVIT BENIGITA па назіраннях Э. Лауцявічуса былі моднымі ў другой палове XVI ст. і выкарыстоўваліся да сярэдзіны XVII ст.[3]). На ўнутраным акне выява шчыта з гарызантальнай штрыхоўкай і гербам "Ліс". Наверсе і ўнізе шчыта па вуглах умоўнага чатырохвугольніка манаграма канцлера ВКЛ Льва Сапегі: L|S|K|L. Нейкія функцыянальныя элементы пераплёту (жукі, зашпількі і інш.) адсутнічаюць.

Памер блока: 18,8×29,5. Блок абрэзаны, верагодна, у апошняй чвэрці XVIII ст. Да спінкі кнігі прыклеены чатыры папяровыя ярлыкі. Ярлык № 1 (па ўмоўным нумары — зверху ўніз) — з глянцавай паверхняй жоўтага колеру, абарваным верхнім левым вуглом і надпісам, які выкананы пазалотай; ярлык № 2 — абарваны з левага краю з надпісам, які выкананы друкарскім спосабам (прыклеены ў 1887 г. у Санкт-Пецярбургу[4]); ярлык № 3 — з глянцавай паверхняй жоўтага колеру і надпісам, які выкананы пазалотай; ярлык № 4 са зрэзаным ніжнім краем і абарваным ніжнім левым вуглом (аб памерах і змесце ярлыкоў спінкі кнігі гл. табл. 1).

Табліца 1. **Памер і змест надпісаў ярлыкоў спінкі кнігі**

| Нумар ярлыка | Памер | Змест надпісаў |
|---|---|---|
| 1 | 5, 0×3, 9 | ACTA MAG.DUC.LITV. |
| 2 | [3, 0]×3,2 | IIIA. 1. |
| 3 | 4,9×5,0 | ANNO 1528 |
| 4 | 4,9×[4, 3] | REGNANTE SIGISMUN I. |

Агульная колькасць аркушаў (без форзацных і аркушаў выкарыстання) — 302= [I]-[IX]+1-290+3б-3в-290а. Першапачатковымі з'яўляюцца аркушы 1 — 290; наступнымі [I] — [IX], [3б], [3в]. Да форзацнага аркуша верхняй крышкі прыклеены аркуш выкарыстання. Яшчэ два аркушы выкарыстання прыклеены да форзацнага аркуша ніжняй крышкі. Пустымі (без запісаў) з'яўляюцца аркушы [I] — [IX], [1 адв.], [3б] — [3в адв.]. За выключэннем аркушаў [VIII адв.] — [IX адв.], [1 адв.] усе яны перакрэслены. Праз аркушы 2-288 адв. прасунуты чырвоны шаўковы шнур, які змацаваны пячаткай I Аддзяленння III Дэпартамента ўрадавага Сената.

Рукапіс in folio. Вадзяныя знакі паперы рукапісу: 1) арк. [I], [III], [IV], [VII], [IX] — "Панна" (1799-1780)[5]; 2) арк. 2, 4, 6 — "Сякера" (1596)[6]; 3) арк. [3б], [3в] — "Рыба" (1738)[7]; 4) арк. 10, 12, 15, 18, 20, 21, 23, 26, 28, 31, 35—37, 39, 43, 44, 47, 48, 50, 55—58, 63, 66, 68, 69, 71—74, 82, 84, 85, 86, 89, 91, 93, 94—97, 99, 103, 104, 106, 108, 111, 113, 115, 117, 119, 121, 122, 125, 127,

[2] LM-224. 1 faks., 2 faks.; Lietuvos Metrika (1533 — 1535). 8-oji Teismų bylų knyga (XVI a. pabaigos kopija) / Par. S. Lazutka, I. Valikonytė, N. Šlimienė ir kt. Vilnius, 1999. 3 faks.

[3] Паведамленне І. П. Старасцінай і Г. Л. Харашкевіч. Laucevičius E. XV — XVIII a. Knygų įrišimai Lietuvos bibliotekose. Vilnius, 1986. P. 89. Першыя публікатары Перапісу 1528 г. адзначылі, што выявы (гэтых - ?) "святых" часта сустракаюцца на "польскіх пераплётах" XVI ст. (РИБ. Т. 33. Заўвага).

[4] РИБ. Т. 33. Заўвага.

[5] Блізкі: Laucevičius. № 2482.

[6] Вельмі падобны: Laucevičius. № 1705.

[7] Блізкі: Laucevičius. № 4170.

131—133 — "Трубы" (1595—1596)[8]; 5) арк. 13, 49, 135, 138, 140, 141, 143, 147—149, 151, 152, 155, 156, 177, 179, 181, 182, 192, 195, 196, 198—202, 208, 212, 214—218, 223, 224, 226, 228, 231, 232, 234, 235, 238, 242, 244, 246, 248, 250, 252, 254, 256, 257, 260, 262, 263, 265, 266, 268, 272, 273, 274, 278, 281, 283, 285, 286, 288, 290 — "Ліс" (1597—1600)[9]; 6) арк. 159—162, 168, 171, 172, 174 — "Абданк" (1596, 1597—1598, 1601)[10]; 7) арк. 184, 186, 188, 190, 210 — "Лебедзь" (1594, 1596)[11].

Захаванасць рукапісу не зусім задавальняючая. Два аркушы: 261 і 262 па пагінацыі № 1 адсутнічаюць, на што звярнулі ўвагу першыя публікатары Перапісу[12]. Гэтыя аркушы былі страчаны ўжо да 5 красавіка 1641 г., паколькі іх адсутнасць адлюстравана ў спісе (*3*), які датаваны гэтым часам. Нязначныя пашкоджанні ў выглядзе разрываў і абрываў, якія заклеены паперай, ёсць на арк. 2, 3, 5, 6, 9, 22, 34, 35, 60, 74, 75, 76, 78 і інш.

Сляды наколаў (для разліноўкі і для ліній, якія складаюць унутранае поле тэксту) не сустрэты. Памеры правага поля той часткі рукапісу, у якой змешчаны пералік ваеннаабавязаных і звесткі аб памерах іх службы, вар'іруецца ў залежнасці ад складу формул, пры дапамозе якіх пісары адзначалі, як павінен быў служыць кожны канкрэтны ваеннаабавязаны. З арк. 8 адв. для паказу памераў службы выкарыстоўваюцца формулы "мае ставіць столькі-та коней (да службы земскай)" (для тых, хто выстаўляў коннікаў) і "мае сам ехаць (да службы земскай)" (для тых, хто выязджаў сам). Імя ваеннаабавязанага і памеры службы адно ад адных прабеламі не адасабляюцца і ўвесь тэкст утварае адну шырокую калонку з вузкімі правым і левым палямі. Так афармляюць тэкст пісары, якія пісалі поч. I і II (аб почырках гл. ніжэй). Але ў далейшым склад формул спрашчаецца: з арк. 19 адв. замест "мае ставіць столькі-та коней (да службы земскай)" пішацца "столькі-та коней", з арк. 25 замест "мае сам ехаць" — "сам". Дзякуючы спрашчэнню формул з'яўляецца магчымасць інакш аформіць тэкст. Апошні падзяляецца на дзве калонкі, у адной з якой (левай) прыводзіцца імя асобы ваеннаабавязанага, у другой (правай) — памеры яго службы. Калонкі адасабляюцца адна ад адной істотным прабелам, пры гэтым назіраецца тэндэнцыя змяшчаць правую калонку прыблізна пасярэдзіне старонкі. Такое афармленне тэксту характэрна для арк. 20 — 39 адв. На арк. 40 і 40 адв. калонкі зліваюцца, г. зн. імёны асоб і памеры іх службы прабелам не адасабляюцца. З арк. 42 зноў з'яўляецца прабел, праўда, невялікі. Звесткі правай калонкі змяшчаюцца не роўна адны пад аднымі, а іх адлегласць ад левага краю старонкі залежыць ад даўжыні імя ваеннаабавязанага, г. зн. чым карацей імя, тым бліжэй да левага краю фіксуюцца памеры службы, і, наадварот. Выключэннем з'яўляецца тэкст арк. 49 — 49 адв. і 52 — 52 адв., які перапісаны поч. III. На гэтых аркушах незалежна ад працягласці імя ваеннаабавязанага памеры службы пішуцца адны пад другімі. На арк. 63 — 64 звесткі аб памерах службы адзначаюцца ўжо са значным прабелам ад імён ваеннаабавязаных, але па-ранейшаму не на роўнай адлегласці ад левага краю. І толькі з арк. 64 адв. гэтыя звесткі пачынаюць пісацца адны пад аднымі. На арк. 72 правая калонка разрываецца. Верхняя частка ідзе пасярэдзіне старонкі, ніжняя — блізка ад правага краю старонкі, г. зн. звужаючы правае поле, пры гэтым лічбы, якія абазначаюць колькасць коней, ставяцца на ўзроўні верхняй часткі разарванай калонкі. З арк. 72 адв. па арк. 132 гэты парадак размяшчэння калонак пануе. З арк. 132 адв., калі да перапіскі Перапісу чарговы раз прыступіў пісар, які пісаў поч. III, правая калонка часцей за ўсё адступае крыху далей ад пра-

[8] Блізкі: Laucevičius. № 143.

[9] Вельмі падобны: Laucevičius. № 1856.

[10] Блізкі: Каманін І., Вітвіцька О. Водяні знаки на папері українських документів XVI і XVII вв. (1566—1651). К., 1923. № 182; вельмі падобны: Laucevičius. № 1034, 1035.

[11] Вельмі падобны: Laucevičius. № 1012; Siniarska-Czaplicka J. Filigrany papierni położonych na obszarze Rzeczypospolitej Polskiej od początku XVI do połowy XVIII wieku. Wrocław — W-wa — Kr., 1959. № 607.

[12] РИБ. Т. 33. Стб. 219—220. Заўвагі.

вага краю, але звесткі аб памерах службы змяшчаюцца па-ранейшаму на роўнай адлегласці ад левага краю. Такім чынам, з арк. 132 адв. правае поле перазыўходзіць па шырыні гэта ж поле на арк. 72 адв. — 132.

Тэкст рукапісу напісаны беларускім беглым скарапісным пісьмом, якое характэрна для апошняй трэці XVI — першай чвэрці XVII ст. Пісьмо акруглае, выразнае, сярэдняга націску.

Вылучаецца пяць асноўных почыркаў. Поч. I (нумарацыя почыркаў тут і далей умоўная) напісаны загаловак да паведамлення аб пастанове Віленскага вальнага сейма ад 1 мая 1528 г.[13] (які выконвае функцыю агульнага загалоўка да кнігі), рэестр зместу Перапісу (арк. 4—7), паведамленне аб пастанове Віленскага вальнага сейма (арк. 8), тэкст на арк. 8 адв., загалоўкі "То реестръ почтов княжецких" (арк. 14), "Реестръ бояр упитъских" (арк. 109), "Земля Бельская. Парафея Бельская" (арк. 128 адв.); поч. II — тэкст на арк. 9-12 адв., 15-48 адв., 50-51 адв., 53-105, 106 адв. з загалоўка "Реистръ бояр каменецъкихъ..." — 132 да слоў "Щепанъ Боровыи самъ"; поч. III — тэкст на арк. 13-14 адв., 49-49 адв., 52-52 адв., 132 са слоў "Янъ Щепановичъ Коваль самъ" — 204 адв. да слоў "Богушъ Павлович 2 кони", 204 адв. са слоў "Пан Путошинскии конь" — 288; поч. IV — тэкст на арк. 105 адв.-106 адв. да слоў "Янъ Менъковичъ самъ"; поч. V — тэкст на арк. 204 адв. са слоў "Богушъ Несвецъкии конь" да слоў "Гневошъ Яловицъкии 5 конеи".

Як можна заўважыць з табліцы суадносін аркушаў і почыркаў рукапісу (табл. 2), на паперы з вадзяным знакам "Сякера" тэкст напісаны поч. I; на паперы з вадзяным знакам "Трубы" — у асноўным поч. II, IV (на арк. 132 і 133 — поч. III); на паперы з вадзяным знакам "Ліс", "Абданк", "Лебедзь" — поч. III і V[14]. Почырк I атаясамляецца па почырку і аўтографах іншых кніг Метрыкі: ім пісаў Адам Пашкевіч[15].

Т а б л і ц а 2. **Суадносіны аркушаў і почыркаў**

| Арк. | Вадзяны знак | Поч. | Арк. | Вадзяны знак | Поч. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
| [I] | "Панна" | | [VI] | | |
| [II] | | | [VII] | "Панна" | |
| [III] | "Панна" | | [VIII] | | |
| [IV] | "Панна" | | [IX] | "Панна" | |
| [V] | | | 1 | | |

[13] Г. Лаўмянскі адносіў гэту пастанову да 31 мая 1528 г. (Łowmiański. S. 19).

[14] Ужо першыя публікатары Перапісу звярнулі ўвагу на сувязь паперы з тым ці іншым вадзяным знакам і почыркамі рукапісаў. Так, яны заўважылі, што "ў першай частцы рукапісу пераважае (вадзяны знак — *А. Г.*) — Арол (г. зн. "Трубы" — *А. Г.*), але ёсць устаўкі з Лісам Сапег. Гэтыя ўстаўкі напісаны іншым почыркам і іншым правапісам. Так, напрыклад, на паперы з Арлом — па$^{н}$, кн҃зь; на арк. 6-м — з Лісам — панъ, княз." (РИБ. Т. 33. Заўвага).

[15] Сціслыя біяграфічныя звесткі аб Адаме Пашкевічу змешчаны ў прадмове да кнігі Метрыкі 44 (Метрыка 44. С. XV. Заўвагі). Наогул, почырк А. Пашкевіча прысутнічае ў многіх перапісаных у канцы XVI — пачатку XVII ст. кнігах Метрыкі, прычым, відавочна, што А. Пашкевічу адводзілася роля не простага перапісчыка, а непасрэднага іх рэдактара. У гэтай сувязі названая асоба заслугоўвае спецыяльнай увагі з боку даследчыкаў Метрыкі.

Улік жа аўтографаў перапісчыкаў кніг Метрыкі, атрыбуцыя з іх дапамогай почыркаў кніг, якія не маюць такіх аўтографаў, дазволіць устанавіць персанальны склад перапісчыкаў, агульныя прынцыпы працы пры перапісцы кніг, нарэшце, удакладніць даты перапіскі кожнай канкрэтнай кнігі (аб аўтографах перапісчыкаў, напр., гл. заўвагі С. Пташыцкага: Описание книг и актов Литовской Метрики / Сост. С. Пташицкий. СПб., 1887. С. 83 (да кнігі Метрыкі 15: "на последнем листе примечание переписчика: далей не было чого писати, бо карты велми пошарпали ку концови — Olbrachta Drożecki pisał"), 85 (да кнігі Метрыкі 30: "Переписана Адамом Пашкевичем в 1596"; да кнігі Метрыкі 34: "тые книги переписал и коригиговал Валериан Мархач") і інш.

*Працяг табл. 2*

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | “Сякера” | | 39 | “Трубы” | II |
| 3 | | | 40 | | II |
| [3б] | “Рыба” | | 41 | | II |
| [3в] | | | 42 | | II |
| 4 | “Сякера” | I | 43 | “Трубы” | II |
| 5 | | I | 44 | “Трубы” | II |
| 6 | “Сякера” | I | 45 | | II |
| 7 | | I | 46 | | II |
| 8 | | I | 47 | “Трубы” | II |
| 9 | | II | 48 | “Трубы” | II |
| 10 | “Трубы” | II | 49 | “Ліс” | III |
| 11 | | II | 50 | “Трубы” | II |
| 12 | “Трубы” | II | 51 | | II |
| 13 | “Ліс” | III | 52 | | III |
| 14 | | III | 53 | | II |
| 15 | “Трубы” | II | 54 | | II |
| 16 | | II | 55 | “Трубы” | II |
| 17 | | II | 56 | “Трубы” | II |
| 18 | “Трубы” | II | 57 | “Трубы” | II |
| 19 | | II | 58 | “Трубы” | II |
| 20 | “Трубы” | II | 59 | | II |
| 21 | “Трубы” | II | 60 | | II |
| 22 | | II | 61 | | II |
| 23 | “Трубы” | II | 62 | | II |
| 24 | | II | 63 | “Трубы” | II |
| 25 | | II | 64 | | II |
| 26 | “Трубы” | II | 65 | | II |
| 27 | | II | 66 | “Трубы” | II |
| 28 | “Трубы” | II | 67 | | II |
| 29 | | II | 68 | “Трубы” | II |
| 30 | | II | 69 | “Трубы” | II |
| 31 | “Трубы” | II | 70 | | II |
| 32 | | II | 71 | “Трубы” | II |
| 33 | | II | 72 | “Трубы” | II |
| 34 | | II | 73 | “Трубы” | II |
| 35 | “Трубы” | II | 74 | “Трубы” | II |
| 36 | “Трубы” | II | 75 | | II |
| 37 | “Трубы” | II | 76 | | II |
| 38 | | II | 77 | | II |

*Працяг табл. 2*

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| 78 | | II | 117 | "Трубы" | II |
| 79 | | II | 118 | | II |
| 80 | | II | 119 | "Трубы" | II |
| 81 | | II | 120 | | II |
| 82 | "Трубы" | II | 121 | "Трубы" | II |
| 83 | | II | 122 | "Трубы" | II |
| 84 | "Трубы" | II | 123 | | II |
| 85 | "Трубы" | II | 124 | | II |
| 86 | "Трубы" | II | 125 | "Трубы" | II |
| 87 | | II | 126 | | II |
| 88 | | II | 127 | "Трубы" | II |
| 89 | "Трубы" | II | 128 | | II |
| 90 | | II | 129 | | II |
| 91 | "Трубы" | II | 130 | | II |
| 92 | | II | 131 | "Трубы" | II |
| 93 | "Трубы" | II | 132 | "Трубы" | II, III |
| 94 | "Трубы" | II | 133 | "Трубы" | III |
| 95 | "Трубы" | II | 134 | | III |
| 96 | "Трубы" | II | 135 | "Ліс" | III |
| 97 | "Трубы" | II | 136 | | III |
| 98 | | II | 137 | | III |
| 99 | "Трубы" | II | 138 | "Ліс" | III |
| 100 | | II | 139 | | III |
| 101 | | II | 140 | "Ліс" | III |
| 102 | | II | 141 | "Ліс" | III |
| 103 | "Трубы" | II | 142 | | III |
| 104 | "Трубы" | II | 143 | "Ліс" | III |
| 105 | | II, IV | 144 | | III |
| 106 | "Трубы" | II, IV | 145 | | III |
| 107 | | II | 146 | | III |
| 108 | "Трубы" | II | 147 | "Ліс" | III |
| 109 | | II | 148 | "Ліс" | III |
| 110 | | II | 149 | "Ліс" | III |
| 111 | "Трубы" | II | 150 | | III |
| 112 | | II | 151 | "Ліс" | III |
| 113 | "Трубы" | II | 152 | "Ліс" | III |
| 114 | | II | 153 | | III |
| 115 | "Трубы" | II | 154 | | III |
| 116 | | II | 155 | "Ліс" | III |

*Працяг табл. 2*

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| 156 | "Ліс" | III | 195 | "Ліс" | III |
| 157 | | III | 196 | "Ліс" | III |
| 158 | | III | 197 | | III |
| 159 | "Абданк" | III | 198 | "Ліс" | III |
| 160 | "Абданк" | III | 199 | "Ліс" | III |
| 161 | "Абданк" | III | 200 | "Ліс" | III |
| 162 | "Абданк" | III | 201 | "Ліс" | III |
| 163 | | III | 202 | "Ліс" | III |
| 164 | | III | 203 | | III |
| 165 | | III | 204 | | III, V |
| 166 | | III | 205 | | III |
| 167 | | III | 206 | | III |
| 168 | "Абданк" | III | 207 | | III |
| 169 | | III | 208 | "Ліс" | III |
| 170 | | III | 209 | | III |
| 171 | "Абданк" | III | 210 | "Лебедзь" | III |
| 172 | "Абданк" | III | 211 | | III |
| 173 | | III | 212 | "Ліс" | III |
| 174 | "Абданк" | III | 213 | | III |
| 175 | | III | 214 | "Ліс" | III |
| 176 | | III | 215 | "Ліс" | III |
| 177 | "Ліс" | III | 216 | "Ліс" | III |
| 178 | | III | 217 | "Ліс" | III |
| 179 | "Ліс" | III | 218 | "Ліс" | III |
| 180 | | III | 219 | | III |
| 181 | "Ліс" | III | 220 | | III |
| 182 | "Ліс" | III | 221 | | III |
| 183 | | III | 222 | | III |
| 184 | "Лебедзь" | III | 223 | "Ліс" | III |
| 185 | | III | 224 | "Ліс" | III |
| 186 | "Лебедзь" | III | 225 | | III |
| 187 | | III | 226 | "Ліс" | III |
| 188 | "Лебедзь" | III | 227 | | III |
| 189 | | III | 228 | "Ліс" | III |
| 190 | "Лебедзь" | III | 229 | | III |
| 191 | | III | 230 | | III |
| 192 | "Ліс" | III | 231 | "Ліс" | III |
| 193 | | III | 232 | "Ліс" | III |
| 194 | | III | 233 | | III |

*Працяг табл. 2*

| 1 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|
| 234 | "Ліс" | III | 263 | "Ліс" | III |
| 235 | "Ліс" | III | 264 | | III |
| 236 | | III | 265 | "Ліс" | III |
| 237 | | III | 266 | "Ліс" | III |
| 238 | "Ліс" | III | 267 | | III |
| 239 | | III | 268 | "Ліс" | III |
| 240 | | III | 269 | | III |
| 241 | | III | 270 | | III |
| 242 | "Ліс" | III | 271 | | III |
| 243 | | III | 272 | "Ліс" | III |
| 244 | "Ліс" | III | 273 | "Ліс" | III |
| 245 | | III | 274 | "Ліс" | III |
| 246 | "Ліс" | III | 275 | | III |
| 247 | | III | 276 | | III |
| 248 | "Ліс" | III | 277 | | III |
| 249 | | III | 278 | "Ліс" | III |
| 250 | "Ліс" | III | 279 | | III |
| 251 | | III | 280 | | III |
| 252 | "Ліс" | III | 281 | "Ліс" | III |
| 253 | | III | 282 | | III |
| 254 | "Ліс" | III | 283 | "Ліс" | III |
| 255 | | III | 284 | | III |
| 256 | "Ліс" | III | 285 | "Ліс" | III |
| 257 | "Ліс" | III | 286 | "Ліс" | III |
| 258 | | III | 287 | | III |
| 259 | | III | 288 | "Ліс" | III |
| 260 | "Ліс" | III | 289 | | |
| 261 | | III | 290 | "Ліс" | |
| 262 | "Ліс" | III | [290a] | | |

Поч. I (гл. фота 2) манерны. У літары "и" перакладзіна злучаецца з мачтамі пад вуглом. Такім жа чынам — пад вуглом — злучаны ўнізе ўнутраныя перакладзіны "м". "Юс малы" нагадвае сучасную "я", але мае завастрэнне зверху і малую левую ножку. Сустрэты звязныя напісанні: "а" і "р" вын., "п" і "р" вын., "юс малы" і "р" і інш. Выяўлены лігатуры: "р" вын. + "б", "р" вын.+"п", "р" вын.+"т", "т" вын. + "в" вын. і інш. Сустрэты знак скарачэння ў выглядзе двукроп'я і цітлападобнай літары. То размашысты, то ўборысты поч. II (гл. фота 3, 5) больш акруглы ў параўнанні з поч. I. Літара "а" па сваёй графічнай форме ідэнтычная сучаснай рукапіснай радковай. Часта "а" пішацца ў адзін прыём і нагадвае ляжачую "е" з дзвюма злучанымі дужкамі. Нярэдка такі варыянт "а" цяжка адрозніць ад "е". "Г" і "и" тоесныя сучасным рукапісным радковым. "К" пішацца ў выглядзе дзвюх вертыкальных дужак, якія не выходзяць за верхнюю лінію радка. "М" мае акруглую ніжнюю пятлю. Звязныя напісанні: "г" і "ȣ", "е"

вын. і “т”, “е” і “р” вын., “и” і “з” вын., “и” і “р” вын., “и” і “т” вын., “и”, “т” і “и”, ”й” вын. (якая нагадвае “z”) і ”в” (петлепадобная), ”й” вын. (якая нагадвае “z”) і ”т”, “паярок” і “т”, “м” вын. і “т”, “о” (з незавершаным авалам) і “р” вын., “с” і “т”, “с” і “ȣ”, “т” вын. і “и” вын. і інш. Лігатуры: “а”(альфа-падобная)+”н” вын., “д” вын.+”б”, ”й” вын. (якая нагадвае “z”)+”п”, “р” вын. +б +”й” вын. (якая нагадвае “z”), “р” вын.+”й” вын. (якая нагадвае “z”), “р” вын.+”п” і інш. Вензелі (спалучэнні літар, якія складаюцца з перасячэння адной літары іншай): “н” вын. +”в”(петлепадобная), “н” вын. + “т” і інш. Па колькасці звязных напісанняў і лігатур поч. II пераўзыходзіць усе іншыя почыркі рукапісу. Поч. III (гл. фота 4, 7) больш вуглаваты ў параўнанні з астатнімі. Літары стаяць на адносна вялікай адлегласці адна ад другой. Звязныя напісанні не выяўлены. Лігатурныя спалучэнні літар рэдкія. Поч. IV (гл. фота 6) падобны да поч. II, але ў ім літара “к” узнаўляецца ў выглядзе, як правіла, не дзвюх вертыкальных дужак, а дзвюх вертыкальных прамых, якія выходзяць за верхнюю лінію радка, а ў словах “конь”, “кони” мае форму, якая зблiжае яе з сучаснай: з касой перакладзінай, што злучаецца з мачтай пасярэдзіне ці ў верхняй яе частцы і ножкай, якая спускаецца з гэтай перакладзіны. Для манернага почырка V (гл. фота 7) характэрна “к”, якая апрача варыянта з дзвюма вертыкальнымі дужкамі, пішацца як сучасная рукапісная вялікая. Кідаецца ў вочы “а” ў імені Андрэя Каравая, левая перакладзіна якой заканчваецца спіралепадобным хвастом. У гэтым почырку для абазначэння “й” часта выкарыстоўваецца петлепадобны знак, які падобны да “z”.

Цітлы: уласна “цітла”, “пакрыццё” і “камора”. Цітлападобныя літары амаль для ўсіх почыркаў тыя ж: “д”, “ж”, “з”, “л”, “м”, “р”, “т”, “х”, “ц”. У поч. II прысутнічаюць цітлападобныя спалучэнні “ти”, “ча”, “чи”. З усіх почыркаў найбольш архаічнымі з’яўляюцца поч. I і III. Адчуваецца большы вопыт працы з пяром у пісараў, якія пісалі поч. I і II у параўнанні з астатнімі.

Пунктуацыя першапачатковая. Са знакаў пунктуацыі выкарыстоўваецца коска, якая мае выгляд нахіленай прамой, дужкі ці знака, які ідэнтычны сучаснай косцы. Коска прысутнічае ў тэкстах усіх перапісчыкаў (гл. фота 2, 3, 4, 5, 6, 7) і ставіцца ці пасля імя ваеннаабавязанага (перад формулай “мает ставити”), ці пасля формулы “мает ставити”, ці пасля абазначэння колькасці коней, ці пасля слоў “сам”, “конь”, “кони” або ва ўсіх названых выпадках адначасова.

Надрадковыя знакі — знакі націску ў выглядзе прамой і крывой з нахілам управа (“оксія”) ці кропкі — рэгулярныя і сустракаюцца ў тэкстах амаль усіх почыркаў, апрача поч. V (гл. фота 2, 3, 5, 6). Колер чарніла рукапісу — ад светла-карычневага да чорнага.

Асобныя загалоўкі буйных раздзелаў і меншых падраздзелаў напісаны вяззю. На аркушы 74 адв. у ніжніх двух трэцях унутранага поля выразна выкананы контурны малюнак пяром: на фоне мантыі, у верхняй частцы якой размешчаны запіс аб “суме”, шчыт у барочным стылe з гербам “Ліс”. Па левы і правы бакі шчыта па вуглах умоўнага шасцівугольніка манаграма Льва Сапегі: L|S|C|M|D|L|. Пасля першай L, па абодва бакі S, пасля C, перад M па сярэдзіне радка кропкі (гл. фота 5).

Нумарацыя сшыткаў адсутнічае (зрэзана - ?). У рукапісу чатыры пагінацыі. Пагінацыя № 1 арыгінальная і адносіцца да канца XVI — пачатку XVII ст., дапоўнена іншым почыркам нумарамі (рускім - ? скорапісам) 284 і 285, верагодна ў XVIII ст. ; пагінацыя № 2 датуецца (па почырку) XVIII ст. Пагінацыя № 3 прастаўлена, калі меркаваць, па завяральным запісе (гл. запісы, якія адносяцца да гісторыі рукапісу ў цэлым), 6 кастрычніка 1950 г. Ціханавай. Якім часам пасля 6 кастрычніка 1950 г. датуецца пагінацыя № 4, сказаць цяжка, таму мы датуем яе шырокімі храналагічнымі рамкамі: другой паловай XX ст. Пагінацыя № 1 — літарная кірылічная чарнільная з прыбаўленнем слова “листъ”; № 2-4 — лічбавыя арабскія: з іх № 2 — чарнільная, № 3 і 4 — аловачныя (простым алоўкам). Месца размяшчэння: пагінацыя № 1 — на верхнім полі бліжэй да правага краю злева ад пагінацыі № 3 і 4; № 2 — на верхнім полі ў правым вугле, вышэй ці правей пагінацый № 3 і 4; № 3 — часцей на верхнім полі ў правым вугле, рэдка на правым полі блізка ад правага вугла, правей пагінацыі № 4; № 4 — да нумара 49 — на верхнім полі ў правым вугле, з нумара 50 — на правым полі блізка ад правага вугла ці

на верхнім полі ў правым вугле ніжэй пагінацыі № 3 (у некаторых выпадках лявей пагінацыі № 3) — на правым баку аркуша; на верхім полі ў левым вугле (часцей) ці на левым полі блізка ад левага вугла (рэдка) — на адваротным баку аркуша. Пагінацыя № 3 да нумара 60 сцёрта (да нумара 60 пагінацыя № 4 прастаўлена па сцёртых нумарах пагінацыі № 3), з нумара 61 закрэслена простым алоўкам, відаць, аўтарам пагінацыі № 4. Усе нумары пагінацыі № 2, апрача 64, таксама закрэслены простым алоўкам (аб размеркаванні пагінацый у рукапісу гл. табл. 3).

Табліца 3. **Суадносіны пагінацый**

| № 4 | № 3 | № 2 | № 1 | № 4 | № 3 | № 2 | № 1 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Другая палова XX ст. | 1950 г. | Апошняя чвэрць XVIII ст. | Кан. XVI — пач. XVII ст. | Другая палова XX ст. | 1950 г. | Апошняя чвэрць XVIII ст. | Кан. XVI — пач. XVII ст. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| [I] | 1 | | | 4 адв. | | | |
| [I адв.] | | | | 5 | 16 | | |
| [II] | 2 | | | 5 адв. | | | |
| [II адв.] | | | | 6 | 17 | | |
| [III] | 3 | | | 6 адв. | | | |
| [III адв.] | | | | 7 | 18 | | |
| [IV] | 4 | | | 7 адв. | | | |
| [IV адв.] | | | | Перапіс | | | |
| [V] | 5 | | | 8 | 19 | | 1 |
| [V адв.] | | | | 8 адв. | | | |
| [VI] | 6 | | | 9 | 20 | | 2 |
| [VI адв.] | | | | 9 адв. | | | |
| [VII] | 7 | | | 10 | 21 | | 3 |
| [VII адв.] | | | | 10 адв. | | | |
| [VIII] | 8 | | | 11 | 22 | | 4 |
| [VIII адв.] | | | | 11 адв. | | | |
| [IX] | 9 | | | 12 | 23 | | 5 |
| [IX адв.] | | | | 12 адв. | | | |
| 1 | 10 | | | 13 | 24 | | 6 |
| [1 адв.] | | | | 13 адв. | | | |
| 2 | 11 | | | 14 | 25 | | 7 |
| 2 адв. | | | | 14 адв. | | | |
| 3 | 12 | | | 15 | 26 | | 8 |
| [3 адв.] | | | | 15 адв. | | | |
| [3б] | 13 | | | 16 | 27 | | 9 |
| [3б адв.] | | | | 16 адв. | | | |
| [3в] | 14 | | | 17 | 28 | | 10 |
| [3в адв.] | | | | 17 адв. | | | |
| Загаловак і рэестр зместу | | | | 18 | 29 | | 11 |
| 4 | 15 | | | 18 адв. | | | |

*Працяг табл. 3*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 | 30 | | 12 | 38 адв. | | | |
| 19 адв. | | | | 39 | 50 | | 32 |
| 20 | 31 | | 13 | 39 адв. | | | |
| 20 адв. | | | | 40 | 51 | | 33 |
| 21 | 32 | | 14 | 40 адв. | | | |
| 21 адв. | | | | 41 | 52 | | 34 |
| 22 | 33 | | 15 | 41 адв. | | | |
| 22 адв. | | | | 42 | 53 | | 35 |
| 23 | 34 | | 16 | 42 адв. | | | |
| 23 адв. | | | | 43 | 54 | | 36 |
| 24 | 35 | | 17 | 43 адв. | | | |
| 24 адв. | | | | 44 | 55 | | 37 |
| 25 | 36 | | 18 | 44 адв. | | | |
| 25 адв. | | | | 45 | 56 | | 38 |
| 26 | 37 | | 19 | 45 адв. | | | |
| 26 адв. | | | | 46 | 57 | | 39 |
| 27 | 38 | | 20 | 46 адв. | | | |
| 27 адв. | | | | 47 | 58 | | 40 |
| 28 | 39 | | 21 | 47 адв. | | | |
| 28 адв. | | | | 48 | 59 | | 41 |
| 29 | 40 | | 22 | 48 адв. | | | |
| 29 адв. | | | | 49 | 60 | | 42 |
| 30 | 41 | | 23 | 49 адв. | | | |
| 30 адв. | | | | 50 | 61 | | 43 |
| 31 | 42 | | 24 | 50 адв. | | | |
| 31 адв. | | | | 51 | 62 | | 44 |
| 32 | 43 | | 25 | 51 адв. | | | |
| 32 адв. | | | | 52 | 63 | | 45 |
| 33 | 44 | | 26 | 52 адв. | | | |
| 33 адв. | | | | 53 | 64 | | 46 |
| 34 | 45 | | 27 | 53 адв. | | | |
| 34 адв. | | | | 54 | 65 | | 47 |
| 35 | 46 | | 28 | 54 адв. | | | |
| 35 адв. | | | | 55 | 66 | | 48 |
| 36 | 47 | | 29 | 55 адв. | | | |
| 36 адв. | | | | 56 | 67 | | 49 |
| 37 | 48 | | 30 | 56 адв. | | | |
| 37 адв. | | | | 57 | 68 | | 50 |
| 38 | 49 | | 31 | 57 адв. | | | |

*Працяг табл. 3*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 58 | 69 | | 51 | 77 адв. | | | |
| 58 адв. | | | | 78 | 89 | 71 | 71 |
| 59 | 70 | | 52 | 78 адв. | | | |
| 59 адв. | | | | 79 | 90 | 72 | 72 |
| 60 | 71 | | 53 | 79 адв. | | | |
| 60 адв. | | | | 80 | 91 | 73 | 73 |
| 61 | 72 | | 54 | 80 адв. | | | |
| 61 адв. | | | | 81 | 92 | 74 | 74 |
| 62 | 73 | | 55 | 81 адв. | | | |
| 62 адв. | | | | 82 | 93 | 75 | 75 |
| 63 | 74 | | 56 | 82 адв. | | | |
| 63 адв. | | | | 83 | 94 | 76 | 76 |
| 64 | 75 | | 57 | 83 адв. | | | |
| 64 адв. | | | | 84 | 95 | 77 | 77 |
| 65 | 76 | | 58 | 84 адв. | | | |
| 65 адв. | | | | 85 | 96 | 78 | 78 |
| 66 | 77 | | 59 | 85 адв. | | | |
| 66 адв. | | | | 86 | 97 | 79 | 79 |
| 67 | 78 | | 60 | 86 адв. | | | |
| 67 адв. | | | | 87 | 98 | 80 | 80 |
| 68 | 79 | | 61 | 87 адв. | | | |
| 68 адв. | | | | 88 | 99 | | 81 |
| 69 | 80 | | 62 | 88 адв. | | | |
| 69 адв. | | | | 89 | 100 | | 82 |
| 70 | 81 | | 63 | 89 адв. | | | |
| 70 адв. | | | | 90 | 101 | | 83 |
| 71 | 82 | 64 | 64 | 90 адв. | | | |
| 71 адв. | | | | 91 | 102 | 84 | 84 |
| 72 | 83 | 65 | 65 | 91 адв. | | | |
| 72 адв. | | | | 92 | 103 | | 85 |
| 73 | 84 | 66 | 66 | 92 адв. | | | |
| 73 адв. | | | | 93 | 104 | | 86 |
| 74 | 85 | 67 | 67 | 93 адв. | | | |
| 74 адв. | | | | 94 | 105 | 87 | 87 |
| 75 | 86 | 68 | 68 | 94 адв. | | | |
| 75 адв. | | | | 95 | 106 | 88 | 88 |
| 76 | 87 | | 69 | 95 адв. | | | |
| 76 адв. | | | | 96 | 107 | 89 | 89 |
| 77 | 88 | 70 | 70 | 96 адв. | | | |

*Працяг табл. 3*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 97 | 108 | 90 | 90 | 116 адв. | | | |
| 97 адв. | | | | 117 | 128 | | 110 |
| 98 | 109 | 91 | 91 | 117 адв. | | | |
| 98 адв. | | | | 118 | 129 | | 111 |
| 99 | 110 | 92 | 92 | 118 адв. | | | |
| 99 адв. | | | | 119 | 130 | | 112 |
| 100 | 111 | | 93 | 119 адв. | | | |
| 100 адв. | | | | 120 | 131 | | 113 |
| 101 | 112 | | 94 | 120 адв. | | | |
| 101 адв. | | | | 121 | 132 | | 114 |
| 102 | 113 | | 95 | 121 адв. | | | |
| 102 адв. | | | | 122 | 133 | | 115 |
| 103 | 114 | | 96 | 122 адв. | | | |
| 103 адв. | | | | 123 | 134 | | 116 |
| 104 | 115 | | 97 | 123 адв. | | | |
| 104 адв. | | | | 124 | 135 | | 117 |
| 105 | 116 | | 98 | 124 адв. | | | |
| 105 адв. | | | | 125 | 136 | | 118 |
| 106 | 117 | | 99 | 125 адв. | | | |
| 106 адв. | | | | 126 | 137 | | 119 |
| 107 | 118 | | 100 | 126 адв. | | | |
| 107 адв. | | | | 127 | 138 | | 120 |
| 108 | 119 | | 101 | 127 адв. | | | |
| 108 адв. | | | | 128 | 139 | | 121 |
| 109 | 120 | | 102 | 128 адв. | | | |
| 109 адв. | | | | 129 | 140 | | 122 |
| 110 | 121 | | 103 | 129 адв. | | | |
| 110 адв. | | | | 130 | 141 | | 123 |
| 111 | 122 | | 104 | 130 адв. | | | |
| 111 адв. | | | | 131 | 142 | | 124 |
| 112 | 123 | | 105 | 131 адв. | | | |
| 112 адв. | | | | 132 | 143 | | 125 |
| 113 | 124 | | 106 | 132 адв. | | | |
| 113 адв. | | | | 133 | 144 | | 126 |
| 114 | 125 | | 107 | 133 адв. | | | |
| 114 адв. | | | | 134 | 145 | | 127 |
| 115 | 126 | | 108 | 134 адв. | | | |
| 115 адв. | | | | 135 | 146 | | 128 |
| 116 | 127 | | 109 | 135 адв. | | | |

*Працяг табл. 3*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 136 | 147 | | 129 | 155 адв. | | | |
| 136 адв. | | | | 156 | 165 | | 149 |
| 137 | 148 | | 130 | 156 адв. | | | |
| 137 адв. | | | | 157 | 166 | | 150 |
| 138 | 149 | | 131 | 157 адв. | | | |
| 138 адв. | | | | 158 | 167 | | 151 |
| 139 | 150 | | 132 | 158 адв. | | | |
| 139 адв. | | | | 159 | 168 | | 152 |
| 140 | 151 | | 133 | 159 адв. | | | |
| 140 адв. | | | | 160 | 169 | | 153 |
| 141 | 152 | | 134 | 160 адв. | | | |
| 141 адв. | | | | 161 | 170 | | 154 |
| 142 | 153 | | 135 | 161 адв. | | | |
| 142 адв. | | | | 162 | 171 | | 155 |
| 143 | 153а | | 136 | 162 адв. | | | |
| 143 адв. | | | | 163 | 172 | | 156 |
| 144 | 154 | | 137 | 163 адв. | | | |
| 144 адв. | | | | 164 | 173 | | 157 |
| 145 | 155 | | 138 | 164 адв. | | | |
| 145 адв. | | | | 165 | 174 | | 158 |
| 146 | 156 | | 139 | 165 адв. | | | |
| 146 адв. | | | | 166 | 175 | | 159 |
| 147 | 157 | | 140 | 166 адв. | | | |
| 147 адв. | | | | 167 | 176 | | 160 |
| 148 | 158 | | 141 | 167 адв. | | | |
| 148 адв. | | | | 168 | 177 | | 161 |
| 149 | 159 | | 142 | 168 адв. | | | |
| 149 адв. | | | | 169 | 178 | | 162 |
| 150 | 160 | | 143 | 169 адв. | | | |
| 150 адв. | | | | 170 | 179 | | 163 |
| 151 | 161 | | 144 | 170 адв. | | | |
| 151 адв. | | | | 171 | 180 | | 164 |
| 152 | 162 | | 145 | 171 адв. | | | |
| 152 адв. | | | | 172 | 181 | | 165 |
| 153 | 163 | | 146 | 172 адв. | | | |
| 153 адв. | | | | 173 | 182 | | 166 |
| 154 | | | 147 | 173 адв. | | | |
| 154 адв. | | | | 174 | 183 | | 167 |
| 155 | 164 | | 148 | 174 адв. | | | |

вялікага князя С. В. Копця больш цанілі як вопытнага канцылярыста і рэдка адпускалі з канцылярыі для выканання розных даручэнняў, якія не былі звязаны з непасрэднай працай установы. Толькі аднойчы (у 1511 г.) ён быў накіраваны ў пасольства ад вялікага князя да паноў-рад ВКЛ. У адпаведнасці з Перапісам 1528 г. С. В. Копцю належала 304 службы сялян (выстаўляў 38 коней).

Для абодвух пісараў праца над Перапісам была апошняй з найбольш значных. М. Богуш-Багавіцінавіч памёр у лістападзе-снежні 1530 г., С. В. Копаць — у маі 1531 г.

Самы малады з непасрэдных кіраўнікоў стварэння Перапісу 1528 г. — І. А. Гарнастай, зрабіў самую паспяховую кар'еру. Пачаўшчы дзякам, І. А. Гарнастай у далейшым займаў пасады земскага падскарбія (пасля смерці М. Богуша-Багавіціновіча), дворнага маршалка (з 1542 г.) і, нарэшце, навагародскага ваяводы (з 1551 г.). У час стварэння Перапісу быў адначасова пісарам і дарсунішскім дзяржаўцам. На той падставе, што дакументы за верасень і першую палову кастрычніка 1528 г., якія б былі падпісаны ім, не выяўлены, можна дапусціць удзел І. А. Гарнастая ў земскім перапісе 1528 г. Магчыма, што як і прыблізна ў 1509 г. (гл. вышэй), І. А. Гарнастай быў адпраўлены з гэтай мэтай на Валынь. Паводле Перапісу І. А. Гарнастай быў уладальнікам 80 уласных службаў сялян (з іх выстаўляў 10 коней) і 96 службаў застаўленых (з іх выстаўляў 12 коней). Памёр І. А. Гарнастай у 1558 г.

Тэкст Перапісу 1528 г. падзяляецца на асобныя буйныя пласты з толькі ім характэрнымі групамі ўстойлівых рыс. У раздзеле "То повет Виленскии" шляхта, якая валодала сялянамі, і тая, якая іх не мела, адзначаецца асобна (дыферынцыраваны пералік шляхты ў залежнасці ад таго ці мела яна сялян або не, ідзе, праўда, з арк. 22). Прыводзіцца агульная колькасць коней, што выстаўлялася з паветаў. Для загалоўкаў падраздзелаў выкарыстоўваецца формула: "Двор (замок) такой-та" ці "Реестр бояр таких-то", "То бояре такие-то", "То реестр повету такого-то", "Реестр попису бояр таких-то — Кождый боярин-шляхтич (особами их) менован ест и на кольку конех служити мають". У раздзеле, які прысвечаны Троцкаму ваяводству, шляхта — уладальніца сялян, і тая, што выязджала сама, фіксуюцца асобна. Аднак агульная колькасць коней, якая выстаўлялася з паветаў, адзначаецца толькі ў адзінкавых выпадках. У загалоўках да падраздзелаў амаль заўсёды пішацца: "Реестр бояр таких-то по тому ж писаны яко иншыи шляхта" (аднойчы "Реестр бояр таких-то. В том реестре потому ж шляхта писана, яко и в ыншых реистрех"). У раздзеле "То попис шляхты земли Жомоитское и их людеи", агульная колькасць коней для валасцей не прыводзіцца. Загалоўкі для падраздзелаў пабудаваны па наступнай схеме: "Двор такой-та" ці "Волость такая-та". На нашу думку, гэтыя групы рысаў адлюстроўваюць творчасць асобных пісараў (груп пісараў) — непасрэдных апрацоўшчыкаў матэрыялаў земскага перапісу і стваральнікаў Перапісу 1528 г. Такім чынам, выяўляюцца, па крайняй меры, тры пісары (ці групы пісараў), якія працавалі над стварэннем Перапісу 1528 г. Дадзім ім умоўную нумарацыю. З іх першаму было даручана апрацаваць рэестры Віленскага ваяводства, другому — рэестры Троцкага ваяводства, трэцяму — рэестры Жамойцкай зямлі.

З улікам характэрных для кожнага з гэтых пісараў спосабу апрацоўкі земскага перапісу, іншыя часткі Перапісу 1528 г. можна размеркаваць паміж імі наступным чынам. Калі меркаваць па формуле загалоўкаў, першаму пісару маглі належаць таксама рэестры, пінскіх, гарадзецкіх, рагачоўскіх, кобрынскіх баяр, баяр і мяшчан Полацкай і Віцебскай зямель ("Реистр бояр пинских. Хто на кольку конех мает служити", "Реистр бояр городецких. Кождыи боярин менован и на кольку конех мають служити", "Реистр бояр рогачовских. Кто на кольку конех мають служити", "Реистр бояр кобрынских. Кождыи боярин менован и на колку конех служат", "То реистр земли Полоцкое. Кождыи кн(я)зь и боярин менован и на кольку конех

служити маютъ", "Реистр земли Витебское. В том реистре князи и бояре менованы и на кольку конех служити мают"). Другому пісару — рэестры татар, клецкіх баяр і баяр Мсціслаўскага замка ("Реестр Абрагимова стягу. По тому ж писан, яко и верхуписаныи татаре","Реестр хоружства кн(я)зя Сеи Дчала Минбалатовича. По тому ж писан, яко и иныи татаре", "Реестр хоружого Ахмет Влан Санчуковича. По тому ж писан, яко в ыншых стягох татарских", "Реестр татар новгородских. По тому ж писан, яко иншыи татаре", "Реестр хоружства князя Банка Сенковича. По тому ж писан, яко и иншии татаре", "То суть бояре замку Мстиславского. По тому ж писан, яко и иные бояре-шляхта", "Реистр бояр клецких. По тому ж писан, яко и иншая шляхта"). Перапіс Валынскай зямлі мог быць апрацаваны адным з трох пісараў. Устанаўленню прыналежнасці рэестраў паноў-рад, раздзела, які мае загаловак "Второго реистру справа", рэестра княжацкіх почтаў, пані і ўдоў, раздзела, які ў рэестры змесу (і ў нас у тэксце) мае загаловак "Повинность въеханю на службу военную некоторое шляхты", а таксама невялікіх раздзелаў "Бояре Белицкого повету", "Пуньские бояре", "Два боярины повету Троцкого" дапамагаюць формулы паказу памераў службы. Вышэй мы ўжо гаварылі, што з арк. 8 адв. для паказу памераў службы ваеннаабавязаных выкарыстоўваліся формулы "мае ставіць стольکі-та коней (да службы земскай)" і "мае сам ехаць (да службы земскай)", а з арк. 19 адв. замест першай формулы пішацца "столькі-та коней", з арк. 25 замест другой — "сам". Аднак пераход да новай формулы не звязаны са зменай почырку. Гэты пераход адбываецца ў тэксце, які напісаны поч. II. Але пісар, што пісаў поч. II, спачатку выкарыстоўвае формулу "мае ставіць столькі-та коней (да службы земскай)", якая ўпершыню з'яўляецца ў тэксце А. Пашкевіча. У тэксце, які напісаны почыркамі III, IV, V, фігуруюць формулы "столькі-та коней" і "сам", якія пачынаюць сустракацца ў тэксце, што напісаны поч. II. Як і для пачатку рэестра Віленскага ваяводства для пералічаных раздзелаў выкарыстоўваецца формула "мае ставіць столькі-та коней" і "мае сам ехаць". Значыць, перапісчыкі канца XVI — пачатку XVII ст. не змянялі нават і формулы. Апошняе дае падставы аднесці ўсе названыя раздзелы да пяра першага пісара. Цяжэй адказаць на пытанне: каму была даручана апрацоўка рэестраў шляхты Дарагіцкага, Мельніцкага і Бельскага паветаў Падляшскай ваяводства. Можна дапусціць, што рэестр шляхты Бельскай зямлі апрацаваў першы пісар: гэты рэестр заканчваецца адзначэннем агульнай сумы шляхты гэтага павета. Рэестр шляхты Дарагіцкага і Мельніцкага паветаў, дзе шляхта з людзьмі і без людзей змешчана ў адзіным пераліку, мог быць складзены трэцім пісарам.

На цяперашні час не ўяўляецца магчымым дакладна ўстанавіць асобы пісараў, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў апрацоўцы земскага перапісу і стварэнні Перапісу 1528 г. Імі маглі быць Алехна Фёдаравіч Крывец, Андрэй Мацкавіч, Фёдар Уладыка, Багдан Мацкавіч Шаўла, Марка Васілевіч Жураўніцкі, дзейнасць якіх у якасці дзякаў канцылярыі ВКЛ прыпадае на 1528 ці бліжэйшыя гады[113]. Нельга выключаць удзел у стварэнні Перапісу 1528 г. асабістых канцлерскіх пісараў і пісарскіх дзякаў, якія актыўна прыцягваліся да працы ў канцылярыі ВКЛ у першай палове XVI ст.[114].

Цяжка сказаць, калі была завершана праца па стварэнню Перапісу: у канцы 1528 г., ці пачатку 1529 г., як лічыць Г. Лаўмянскі. Ва ўсякім выпадку, ён быў гатовы да 16 лютага 1529 г.,

[113] А. Ф. Крывец — 1512 г. (LM-8. P. 163) — 1528 (Перапіс 1528 г. Арк. 13). Андрэй Мацкавіч — 10 жніўня 1524 г. (UC. S. 266) — 21 студзеня 1531 г. (Метрыка. Спр. 17. Арк. 147 адв.). Фёдар Уладыка як notario ruthenico — 28 красавіка 1527 (Метрыка. Спр. 18. Арк. 120 адв.) — 4 мая 1527 г. (Метрыка. Спр. 18. Арк. 118 адв.). Багдан Мацкавіч Шаўла — 17 ліпеня 1527 (Метрыка. Спр. 14. Арк. 358 адв.) — 1 лістапада 1529 г. (UC. S. 127). Марка Васілевіч Жураўніцкі — 24 лютага 1530 г. (Метрыка. Спр. 224. Арк. 373 адв. У LM-224 памылкова — "Майка" (LM-224. P. 363).

[114] Груша А. Службовы склад і структура канцылярыі ВКЛ 40-х гадоў XV — першай паловы XVI ст. // Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. 2001. Т. 1. С. 23—24.

калі вялікі князь стаў рассылаць да прадстаўнікоў паноў-рад "лісты" аб памерах службы і "плата"[115].

Арыгінал Перапісу не меў загалоўка "Ухвала на великомъ соиме Виленскомъ...", які прысутнічае ў копіі канца XVI — пачатку XVII ст., а таксама рэестра зместу. Пры апрацоўцы земскага попісу некаторыя аркушы апошняга аказаліся не на сваім месцы. У выніку ў раздзел "Повинност въеханю на служъбу военную некоторое шляхты" былі ўклінены тэксты з падзагалоўкамі "Бояре Белицкого повету", "Пуньскии бояре", "Два бояриньі повету Троцкого", у той час як за артыкулам "Ивашута Шепуревич мает ставити конь.", відавочна, неабходна было чытаць "Федько Сербинович з Волыня мает ставити 3 кони." і далей па тэксце.

Арыгінал Перапісу захоўваўся ў канцылярыі, як, зрэшты, і большасць кніг Метрыкі XV — XVI стст.[116] і быў перапісаны разам з іншымі кнігамі Метрыкі гэтага часу ў канцы XVI — пачатку XVII ст. У стварэнні копіі прымала ўдзел мінімум шэсць пісараў (з улікам рэдактараў, але не ўлічваючы складальніка пагінацыі). Адам Пашкевіч, які пісаў почыркам I, склаў загаловак да паведамлення аб пастанове Віленскага вальнага сейма, рэестр зместу, перапісаў паведамленне аб пастанове сейма, а таксама невялікую частку тэксту перапісу (арк. 8 адв.), склаў загалоўкі да падраздзелаў: "То реестръ почтов княжецких" (арк. 14), "Реестръ бояр Упитъских" (арк. 109), "Земля Бельская. Парафея Бельская" (арк. 128 адв.). Астатні тэкст быў перапісаны чатырма пісарамі, якія пісалі почыркамі II, III, IV, V. Пры гэтым асноўная праца была ўскладзена на пісараў, якія пісалі почыркамі II, III. Перапісчыкі канца XVI — пачатку XVII ст. не ўносілі нейкіх змен у тэкст рукапісу. Не датычнымі засталіся нават формулы паказу памераў службы (гл. вышэй). А. Пашкевіч, якому належаць устаўкі прапушчанага тэксту, а таксама, магчыма, калі не ўсе, то многія выпраўленні, якія выкананы чарнілам не балотнага колеру, ажыццявіў рэдагаванне перапісанага тэксту. Выпраўленні, што зроблены чарнілам балотнага колеру, належаць другому рэдактару (гл. заўвагі). Некаторыя з выпраўленняў другога рэдактара надзвычай сумніцельныя. Так, напрыклад, "Міхна" ў імёнах Міхны Нацавіча, Міхны Плюскава і наўгародскага харужага Міхны выпраўлена на "Михнач", у той жа час як, напрыклад, Плюскоў у крыніцах называецца Міхнам[117]. Складваецца ўражанне, што загаловак да перапісу А. Пашкевічам быў складзены як бы спешна, толькі на падставе знаёмства з паведамленнем аб соймавай пастанове. Відавочна, А. Пашкевіч спачатку склаў загаловак і толькі потым прыступіў да складання рэестра зместу і перапіскі тэксту. Гэты перапісчык і рэдактар, напэўна, быў самым старшым сярод астатніх аб чым сведчыць не толькі пэўны архаізм яго почырку (гл. "Агульныя знешнія і ўнутраныя прыкметы рукапісу"), але і тое, што ён рэгулярна і паслядоўна кіраваўся правілам выкарыстання шырокага "е" пасля галосных, якое к канцу XVI ст. пачынае старэць.

У XVII ст. доступ да кніг Метрыкі, у тым ліку да Перапісу 1528 г., не быў строга абмежаваны для некаторых старонніх асоб. Гэта прывяло да таго, што ў першапачатковым тэксце з'явілася шэраг уставак і дапісак (далей дапісак) у выглядзе імён і прозвішчаў (гл. заўвагі да тэксту). Некаторыя з іх былі выкрэслены, верагодна, тады ж: у XVII ст. Іншыя ўсё ж такі захаваліся. Параўнанне спіса *Б* з іншымі дазваляе ўдакладніць час з'яўлення шэрагу з іх. Дапіскі "Петуховіч" на арк. 113 адв. і "Петух" на арк. 220, "Корсак", "Корсакова", "Корсаковая" на арк. 217 адв. — 218, "Станевічъ Кот" на арк. 259 у спісе (*З*) адсутнічаюць. Значыць, з'явіліся яны пасля 5 красавіка 1641 г. (дата спіса (*З*)). Цікава было б у далейшым высвятліць дакладны

[115] Кром. 57-60.

[116] Груша А. Да некаторых праблем гісторыі Метрыкі ВКЛ (першыя гістарычныя назвы; па матэрыялах кніг Метрыкі ВКЛ першай паловы XVI ст.) // Інфармацыйнае забеспячэнне навукі: праблемы, пошукі, рашэнні. Мінск, 2000. С. 152—162.

[117] Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552). Кніга запісаў 28 / Падрыхт. В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Мінск, 2000. С. 122.

час, абставіны з'яўлення гэтых і іншых дапісак, а таксама іх канкрэтных аўтараў. У сувязі з дапіскамі з прозвішчам "Петух", "Петуховіч", "Петуховая" варта было б згадаць адзін фальшывы дакумент: прывілей вялікага князя Аляксандра полацкаму харужаму Аляксандру Петуху на маёнтак Пліса[118]. Уладанні Петухоў размяшчаліся на тэрыторыі Полацкай зямлі. Пасля заняцця Полаччыны войскамі Расійскага царства ў 1563 г. Фёдар і Ціша Петухі (разам з Васілём Вянтурай) атрымалі ўзамен страчаных уладанняў с. Самолкі Магілёўскай вол.[119]. 6 чэрвеня 1682 г. вялікі князь Ян III Казімір выдаў Канстанцыю, Дамініку Петухам і інш. пацвярджальны прывілей на с. Самолкі і іншыя ўладанні ў Магілёўскай эканоміі[120]. Калі меркаваць па дапісках, то Петухі прэтэндавалі таксама і на ўладанні ў Ваўкавыскім і Троцкім паветах. Верагодна, мы маем справу з нейкай мэтанакіраванай дзейнасцю прадстаўнікоў Петухоў ва ўзмацненні значэння свайго рода ў мінулым і зацвярджэнні маёмасных правоў.

## Прынцыпы перадачы тэксту і навуковы апарат

Апісанне рукапісу і падрыхтоўка яго тэксту ажыццёўлена ў асноўным у адпаведнасці з "Метадычнымі рэкамендацыямі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага)", якія складзены аўтарам гэтых радкоў"[121].

Літары, якія выйшлі з ужытку — у рукапісу гэта є, ѡ, ȣ, ѣ, ѧ — захоўваюцца. "А" ётаванае замяняецца на "я". Дыграф "кг" захоўваецца. "Ер" ("ъ") перадаецца як у сярэдзіне, так і ў канцы слова. Лігатуры і вязь расшыфроўваюцца і перадаюцца ў радку. Наяўнасць вязі агаворваецца ў заўвагах. Там жа прыводзіцца яе паказальнік, асноўныя, дадатковыя прыёмы і элементы аздаблення (калі ёсць). Паказальнік различваецца па літарах "п", "н" і "и"[122] і акругляецца да ½. Літарнае абазначэнне лічбаў перадаецца арабскімі лічбамі. Вынасныя надрадковыя літары і склады ўносяцца ў радок і перадаюцца курсівам. "Ъ" і "ь", якія маглі падразумявацца пасля вынасных зычных, не ўзнаўляюцца. Прапушчаныя літары ў скарочаных пад цітлай словах аднаўляюцца і заключаюцца ў круглыя дужкі. Знакі пунктуацыі, якія ёсць у тэксце, не перадаюцца. Публікатар уносіць свае знакі прыпынку згодна з сучаснымі правіламі пунктуацыі. Надрадковыя знакі (у помніку — калі не ўлічваць цітлаў — гэта знакі націску) не адзначаюцца. Вялікія (памерам у два і болей радкі) і тоўстыя літары вылучаюцца тоўстым шрыфтам. Канец радка рукапісу адзначаецца адной вертыкальнай лініяй, канец старонкі — дзвюма, канец слупка — адной нахіленай лініяй.

Некаторыя моманты перадачы тэксту патрабуюць больш пільнай увагі. Маецца на ўвазе ў першую чаргу праблема ўзнаўлення "ь" пасля вынасных зычных літар. У дыскусіі, якая распачалася ў апошні час сярод публікатараў кніг Метрыкі ВКЛ[123] адносна таго, ці ёсць неабходнасць адзначаць мягкасць пасля вынасных зычных з дапамогай "ь" (у круглых дужках), мы займаем бок тых, хто лічыць, што рабіць гэта ўсё ж такі немэтазгодна. Не ўносячы "ь" нават у круглых дужках, мы больш паслядоўна захоўваем прынцып неўмяшання ў тэкст[124]. У любым

[118] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. СПб., 1863. Т. 1. 1361—1598. № 42. С. 33.

[119] Метрыка 44. С. 97

[120] Метрыка. Спр. 138. Арк. 463—464. Паведамленне супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі А. Б. Доўнара.

[121] Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Аўтар-складальнік А. І. Груша. Мн., 2003.

[122] Щепкин. С. 42. Прим.

[123] Напр.: Новости Литовской Метрики. Вып. 4. Вильнюс, 2000. С. 7—9.

[124] Нагадаем палажэнне В. М. Шчэпкіна: "..."ъ" і "ь", калі яны не значацца ў рукапісе, павінны быць цалкам апушчаны; прыпісваць іх ад сабе, хаця б у дужках, наогул не належыць, бо ў многіх выпадках гэта можа змяніць чытанне..." (Щепкин. С. 184).

выпадку, вынасная зычная літара вылучаецца курсівам, а гэта служыць сігналам для даследчыка, што тут можа стаяць або "ь", або "ъ". Гэтым жа прынцыпам мы кіруемся пры раскрыцці скарачэнняў тыпу кантракцыя, калі скарочаны "а" ётаванае ці "юс малы". Праўда, тут гэты прынцып рэалізуецца інакш: мы ўносім літару "а", падразумяваючы магчымасць пастаноўкі ў дадзеным месцы як "юса малога", так і "а" ётаванага.

Калі не зразумела, што выражае ў тэксце дадзенае вызначэнне: этнічную, сацыяльную прыналежнасць, рэгіянальнае, палітнічнае паходжанне, пасаду ці імя-мянушку, прозвішча і асабовае імя ("Чехъ Биятъ", "Осаитъ Татарин", "Матеи Боярынъ", "Федор Видъблянинъ", "Иван Путивленин", "Щогол Москвитинъ", "Дьяк Мартинович" і інш.), у заўвагах робіцца паведамленне: "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. этнічнай прыналежнасці*", "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. сацыяльнай прыналежнасці*", "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. рэгіянальнага паходжання*", "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. палітнічнага паходжання*", "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. імя*", "*х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. пасады*". У заўвагах адзначаюцца спрэчныя выпадкі прачытання формул тыпу "Свелипичъ", "Зохнич", у якіх "С" і "З" можна прыняць за прыназоўнік: "с Велипичъ", "з Охнич" (маецца на ўвазе: "з с. Вялічы", "з с. Охнічы"). У тым выпадку, калі пасля "С" у такіх формулах ідзе сапраўды назва населенага пункта, якая пачынаецца з "О" (а не з Ѡ) робіцца папраўка: "*так у ркп., трэба было б пісаць* Ѡ*мновичъ*".

Матэрыяльныя пашкоджанні тэксту адзначаюцца ў заўвагах. Страчаны тэкст па магчымасці аднаўляецца па спісах (дакладней па іх публікацыях), па сэнсу, а ў асобных выпадках і па першым выданні (у першай чвэрці XX ст. рукапіс, трэба думаць, меў лепшы стан захавання), пры гэтым адноўлены тэкст заключаецца ў квадратныя дужкі. У заўвагах да адноўленага тэксту адзначаецца характар пашкоджання, прыблізная колькасць страчаных літар і падставы для рэканструкцыі. Прыблізная колькасць страчаных літар устанаўліваецца з суадносін даўжыні радка і шырыні літар і па колькасці літар на гэтым адрэзку ў папярэднім і наступным радках і прыводзіцца ў круглых дужках. Напрыклад: "*разрыў (адна літара); у кв. дуж. — ё*", "*разрыў (тры літары); у кв. дуж. — па в*", "*сцёрта (чатыры літары); у кв. дуж. — па ё*", "*наклейка (адна літара); у кв. дуж. — па сэнсу*". У выпадку, калі страчаны тэкст не паддаецца аднаўленню, замест яго ставіцца шматкроп'е, якое заключаецца ў квадратныя дужкі, а ў заўвагах адзначаецца характар пашкоджання і прыблізная колькасць страчаных літар, напрыклад: "*рэстаўрацыйны зрэз (12 літар)*".

Калі літары страчаны часткова і іх распазнанне не выклікае сумненняў, яны не заключаюцца ў квадратныя дужкі, але ў заўвагах робіцца паведамленне аб іх няпоўнай захаванасці і прычынах пашкоджання, напрыклад: "кȣ *пашкоджаны з-за разрыву*". У квадратныя дужкі не заключаюцца літары, якія знаходзяцца пад прыклейкай, але чытаюцца на прасвет. Аднак аб гэтым адзначаецца ў заўвагах: "*на* ичъ *прыклейка, літары чытаюцца на прасвет*".

Калі ў слове адна ці некалькі літар выпраўлены тым жа почыркам і тым жа чарнілам, г. зн., калі можна меркаваць, што выпраўленні зроблены адным пісарам рукапісу, для выдання прымаецца выпраўленае чытанне, а да слова робіцца заўвага, напрыклад: "*першае* к *выпр. з* н", "х *выпр. з* в", "ц *выпр. з* н". Калі літара, з якой рабілася выпраўленне, не ідэнтыфіцыруецца, у заўвагах пішацца "з іншай літары", напрыклад: "ц *выпр. з інш. літары*". Калі існуюць сумненні, з якой літары была выпраўлена дадзеная літара, ступень сумнення выражаецца вызначэннем "верагодна", напрыклад: "к *выпр., верагодна, з* н". Сумненне часам выклікае і сам факт выпраўлення. У гэтым выпадку тэкст заўвагі пачынаецца з вызначэння ступені верагоднасці самога факта выпраўлення ("верагодна", "магчыма", "відавочна") і слова "выпраўленне"; затым (пасля двукроп'я) паведамляецца, якая літара і з якой была выпраўлена, напрыклад: "*магчыма*

*выпраўленне:* Б *выпр. з інш. літары*". Літары, якія напісаны па сцёртым тэксце таксама адзначаюцца у заўвагах, напрыклад: "ев *нап. па сцёртым*".

Калі слова напісана і закрэслена тым жа чарнілам і гэта закрэсліванне ўзгадняецца з кантэкстам, закрэсленае слова ў тэкст не змяшчаецца, але адзначаецца ў заўвагах, напрыклад: "*далей нап. і зак.* конь".

Выпраўленні, якія зроблены рэдактарамі іншым чарнілам (почыркі, якімі зроблены выпраўленні ў дадзеным рукапісе не ідэнтыфікуюцца), прымаюцца для выдання, але ў заўвагах адзначаецца розніца ў чарніле. Аб колеры чарніла паведамляецца толькі тады, калі яно выкарыстоўваецца ў далейшым (ці раней) у почырку, які не ідэнтыфікуецца. У адваротным выпадку пішацца "інш. чрнл.", напрыклад: "т *выпр. з* т *інш. чрнл.*", "*трэцяе* е *выпр. з* ч *інш. чрнл.*", "к *выпр. з* н *чрнл. балотнага колеру*". Яўна памылковыя рэдактарскія выпраўленні не ўлічваюцца. Калі гаворыцца аб выпраўленні, якое не ўлічана публікатарам, замест "з" выкарыстоўваецца прыназоўнік "на", напрыклад: "о *выпр. на* а *чрнл. балотнага колеру...*".

Калі частка тэксту закрэслена іншым чарнілам, і гэта закрэсліванне ўзгадняецца з кантэкстам, закрэсленае слова ў тэкст таксама не змяшчаецца, але аб гэтай асаблівасці паведамляецца ў заўвагах, пры гэтым адзначаецца розніца ў чарніле. Аб колеры чарніла паведамляецца толькі тады, калі яно выкарыстоўваецца ў далейшым (ці раней) у почырку, які не ідэнтыфікуецца. У адваротным выпадку пішацца "інш. чрнл.".

Усе асноўныя почыркі дакумента ўмоўна нумаруюцца рымскімі лічбамі. Аб межах пашырэння почыркаў робіцца паведамленне ў заўвагах, напрыклад: "*пач. поч. I*", "*заканчв. поч. I*", "*пачын. поч. II*".

Калі літары (не вынасныя) і словы напісаны над радком ці на полі, упісаны ў радок, паміж радкамі, гэта акалічнасць адзначаецца ў заўвагах. Калі почырк і чарніла такіх літар і слоў адрозніваюцца ад почырку і чарніла акаляючага яго тэксту, гэта таксама агаворваецца ў заўвагах. Нумар почырку прыводзіцца толькі тады, калі гэты почырк сустракаецца ў далейшым (ці раней). Розніца ў чарніле не адзначаецца, калі почырк ідэнтыфікуецца. Аб колеры чарніла паведамляецца толькі тады, калі яно выкарыстоўваецца ў далейшым (ці раней) у почырку, які не ідэнтыфікуецца. У адваротным выпадку пішацца "інш. чрнл.".

У заўвагах паведамляецца аб наяўнасці калафонаў, росчыркаў пяра, аб незвычайных інтэрвалах паміж радкамі, памерах літар, асаблівасцях размяшчэння тэксту.

Дакумент выдаецца без купюр і адвольных дапаўненняў. Арфаграфія тэксту захоўваецца. Словы не скарачаюцца. Колькасныя лічэбнікі, якія напісаны ў крыніцы словамі, перадаюцца словамі. Невыразнае напісанне асобных літар і няўпэненае іх чытанне агаворваецца ў заўвагах, напрыклад: "у *нап. невыразна*"; "Ро *нап. невыразна з-за чрнл., якія расцякліся*"; *другое* и *нап. невыразна*"; "ч *нап. невыразна, можна прачытаць як* г". Усе дзіўныя і незвычайныя чытанні тэксту захоўваюцца і суправаждаюцца тлумачэннем "так у ркп.". У заўвагах выказваюцца меркаванні аб правільным чытанні. Напрыклад: "*так у ркп., верагодна, трэба чытаць* Млѣкусъ".

Паўторы асобных слоў, недапісаныя літары, замена адной літары іншай у словах не выпраўляюцца, але адзначаюцца ў заўвагах. Пры гэтым аб паўторах слоў паведамляецца пры дапамозе фразы "так у ркп.". Пры адзначэнні недапісанай літары, замене адной літары іншай пасля слоў "так у ркп., трэба чытаць" даецца правільнае напісанне ўсяго слова, напрыклад: "*так у ркп. (без цітлы), трэба чытаць* П(а)ни", "*так у ркп., трэба чытаць* Якѹбовая". Сумнiцельныя і яўна памылковыя напісанні імён уласных суправаждаюцца заўвагай: "*так у ркп., трэба чытаць* Лѹчаи, *пар. ніжэй:* Михал Лучаєвичъ, Матеи Лучаевич, Станковаѧ Лучаеваѧ". Калі пісарам па неўважлівасці прапушчана слова, гэты пропуск абазначаецца ў тэксце шматкроп'ем (трохкроп'ем), а ў заўвагах прыводзіцца поўная фраза, напрыклад: "*так у ркп., відавочна, трэба чытаць* Стас а Юрьи Носовичы сами".

Пазнейшыя ўстаўкі і дапіскі (далей — устаўкі) пры выданні рукапісу не ўлічваюцца, але аб іх наяўнасці паведамляецца ў заўвагах. Тэксту ўстаўкі папярэднічае адзначэнне аб розніцы ў почырку. Нумар почырку для ўставак прыводзіцца толькі тады, калі гэты почырк сустракаецца ў далейшым (ці раней). Нумарацыя почыркаў уставак працягвае нумарацыю почыркаў асноўнага тэксту, але мае абазначэнне "ПМ" ("паметка"). У канцы тэксту ўстаўкі ў круглых дужках прыводзіцца дата ўстаўкі. Там жа ў некаторых выпадках змяшчаецца аргументацыя датавання. Тэкст уставак публікуецца па агульных правілах. Заўвагі да ўставак (іх нумары адзначаюцца над радком арабскімі лічбамі з круглай дужкай) прыводзяцца пасля даты:

*далей нап. інш. поч. і чрнл., узята ў рамку і зак. інш. чрнл.* з Андрем[1)] Воишнивцом *(XVII ст., аб даце, у прыватнасці, сведчыць напісанне* ц *у выглядзе* п *з перакладзінай унізе і хвастом, які пачынаецца з ніжняга пункта правай мачты* п*)* [1)] *так у ркп., трэба чытаць* Андреем

*ніжэй нап. поч.* $X_{нм}$ *і зак. інш. чрнл.* Мис Криш[...][1)] *(XVII ст.)* [1)] *неразб. (восем літар); пасля* Криш[...] *поч.* $X_{нм}$, сам

*ніжэй нап. поч.* $X_{нм}$ *і зак. інш. чрнл.* Лецъ[...][1)] Бор[...][2)] Криш[...][3)] *(XVII ст.)* [1)] *неразб. (дзве літары);* [2)] *неразб. (адна літара);* [3)] *неразб. (пяць літар); пасля* Криш[...] *поч.* $X_{нм}$ сами

*ніжэй на ніжнім полі інш. поч. і чрнл.* Станевічъ Кот[1)] *(XVII ст.)*[1)] *так у ркп.*

У заўвагах адзначаецца пісарскія паметкі; кустоды, якія напісаны іншым почыркам; пустыя часткі старонак; адсутнасць адпаведных загалоўкам артыкулаў у рэестры зместу і іншую ў параўнанні з загалоўкамі іх рэдакцыю. Там жа даюцца асобныя каментарыі па змесце.

У якасці рознaчытанняў прыводзяцца толькі тэксты па спісе *Д* (па *ж*). Раздзелы і падраздзелы *Д*, якія ідуць за рэестрам паней-ўдоў, размешчаны ў іншым, чым у *Б*, парадку: Наўгародскі пав., Менскі пав., Троцкі пав.,Ількамірскі пав. (*Б*: Менскі пав., Наўгародскі пав., Вількамірскі пав., Троцкі пав.). Гэта дало магчымасць першаму публікатару *Д* М. М. Крому выказаць меркаванне, "што рэестры кожнага з паветаў існавалі некаторы час асобна і толькі ў далейшым былі зведзены ў адну ведамасць..."[125]. Магчыма, тэкст *Д* зыходзіў да больш ранняга, чым *Б* спіса, які ўзнік у той час, калі падраздзелы арыгінала яшчэ не атрымалі таго парадка размяшчэння, які замацаваўся ў *Б*. Аднак, хутчэй за ўсё, пратографам *Д* з'яўляўся *Б*. Па гэтай прычыне прыведзеныя рознaчытанні павінны паказаць асаблівасці працы канцылярыі Радзівілаў, у нетрах якой ён быў створаны. Склад рознaчытанняў наступны: 1) адрозненне ў даце прыняцця сеймавай пастановы; 2) адрозненні ў колькасці коннікаў, якія павінны былі выстаўляцца ваеннаабавязанымі; 3) адрозненні ў форме імён, у тым ліку тыя, якія маюць пэўнае значэнне для вывучэння іх эвалюцыі; 4) дапаўненні; 5) пропускі. Яўна памылковыя напісанні ў якасці рознaчытанняў не адзначаюцца. Праўда, і тыя імёны, якія фігуруюць у якасці рознaчытанняў, узноўлены, відавочна, у скажоным выглядзе, дададзены ці зменены свядома (таму ў паказальнік імёнаў яны не ўключаны). Дакладана вядома, што пратографам іншых спісаў паслужыў *Б*, аб чым сведчыць змест нарацыі выпісаў, у складзе якіх яны захаваліся (гэтыя выпісы выдаваліся з кніг Метрыкі Вялікай канцылярыі ВКЛ[126], г. зн. з кнігі Метрыкі 523). Рознaчытанні па іх прыводзяцца толькі тады, калі яны пацвярджаюць правільнае напісанне, якое, у сваю чаргу, устаноўлена па іншых крыніцах; ці калі яны могуць змяшчаць правільнае напісанне.

Пазнейшыя паметкі не адзначаюцца. Каментарыі для асоб не даюцца. Усё гэта будзе змешчана ў асобным томе дапаўненняў да Перапісу 1528 г.

На жаль, пэўныя аб'ектыўныя прычыны, у першую чаргу — цяжкадаступнасць арыгінала — не далі нам магчымасці рэалізаваць усе патрабаванні, якія змешчаны ў нашых жа "Метадычных рэкамендацыях" (напрыклад, адзначыць знакі пунктуацыі, нацiскі і інш.). Відавочна, для аб'ёмных помнікаў, якія сёння захоўваюцца за межамі Беларусі, поўная рэалізацыя гэтых прынцыпаў у бліжэйшы час застаецца недасяжным ідэалам.

[125] Кром. С. 17.

[126] АВАК. Т. 13. № 6. С. 18; AS. Т. 3. S. 325; АВАК. Т. 24. № 30. С. 32; № 31. С. 36; № 32. С. 68—69; НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 899. Арк. 12.

Тэкст Перапісу 1528 г. па выданню ў "Рускай гістарычнай бібліятэцы" перапісаў В. Я. Кудрашоў. А. І. Груша зверыў тэкст па рукапісе, выправіў памылкі, якія прысутнічалі ў перапісаным тэксце, апрацаваў апошні згодна з сучаснымі прынцыпамі выдання (адзначыў у адпаведнасці з рукапісным тэкстам літары, якія выйшлі з ужытку; выдаліў "ъ" і "ь", дзе яны адсутнічаюць у рукапісу; вылучыў вынасныя літары; унесеныя ў тэкст публікацыі літары, якія ў тэксце рукапісу былі скарочаны, а таксама вялікія і тоўстыя літары; зафіксаваў межы радкоў і слупкоў; нанава раставіў вялікія і малыя літары, знакі прыпынку; разбіў тэкст на абзацы; памяняў нумары са старой пагінацыі на новую; падабраў шрыфты для загалоўкаў; склаў заўвагі і інш.). Паказальнік імёнаў з'яўляецца вынікам сумеснай працы М. А. Вайтовіча і А. І. Грушы. Пры дапамозе праграмы, якая створана М. А. Вайтовічам, была праведзена аўтаматызаваная індэксацыя імён. Ручная дапрацоўка вынікаў працы праграмы ажыццёўлена названымі публікатарамі. Тлумачэнні да імён дадзены А. І. Грушам. Ён жа правёў і канчатковае рэдагаванне паказальніка. Геаграфічны паказальнік-каментарый склаў М. Ф. Спірыдонаў.

*Кандыдат*
*гістарычных навук*
*А. І. Груша*

## Пералік скарачэнняў

### Архівы, архіўныя фонды і асобныя адзінкі захавання

Метрыка — НГАБ. КМФ-18. Воп. 1.

Метрыка. Спр. 6. — "1495 — 1505. [Судебные решения, пожалования и посольства великого князя и короля Александра…]".

Метрыка. Спр. 7 — "1506 — 1513. Книги справ поселских, так теж данин и инших листов поточных за панованья короля е. м. Жикгимонта старого."

Метрыка. Спр. 9 — "1511 — 1514. Привилегии и пожалования Сигизмунда 1-го. Подлинная книга.".

Метрыка. Спр. 12 — "1522 — 1529. Метрика привилев, данин и потверженей, также листов поточных до них належачих короля е. м. Жикгимонта Першого, канцлерства Кгаштолтового."

Метрыка. Спр. 14 — "1524 — 1529. Книга розных справ и листов поточных е. м. Жикгимонта Першого и ку концу несколько привилейков. В тых книгах пишутся листы жалобныи. Справа пана Богуша Боговитиновича, подскарбего земского, маршалка и писара, державцы слонимского и каменецкого во Львове, лета Божего 1524, мца сент. 1 день, индикт 13. Переписана в 1598."

Метрыка. Спр. 15 — "1528 — 1534. Метрика короля е. м. Жикгимонта старого справ судовых, уфалы земские, посельства розные и некоторые данины."

Метрыка. Спр. 17 — "1530 — 1536. Метрика короля е. м. Жикгимонта Першого привилев, данин, декретов, и иншых розных справ поточных, за канцлерства Кгаштолтового."

Метрыка. Спр. 18 — "1532 — 1534. Сборник документов, относящихся к владениям королевы Боны. Liber copiarum aliarumque rerum necessario inscriptarum. Переписана."

Метрыка. Спр. 19 — "1535 –1537. Тые справы почали приехавши господарю королю Жикгимонту до Кракова, лета Божего 1535, мца августа 18 дня, инд. 8, за пана Михайла, писаря, и державцу медницкого."

Метрыка. Спр. 20 — "1536 — 1539. Метрика привилев, потверженей и иных листов короля е. м. Жикгимонта першого, справованя пана Кгаштолтового."

Метрыка. Спр. 21 — "1536 — 1537. Тые справы початы у книги вписываны быти приехавшы королю е. м. и великому князю Жикгимонту до Кракова з Великого князства Литовского, лета 1536 мца ноября 22 дня за пана Михайла, писара. "

Метрыка. Спр. 29 — "1546 — 1547. То суть книги справы декана и каноника виленского, секретара и писаря е. королевской м. князя Валериана; книга королевских судебных решений."

Метрыка. Спр. 138 — "1676 — 1690. Книга канцлеров пана М. А Огинского…"

Метрыка. Спр. 221 — "1510 — 1517. Книга маршалковского суда Яна Миколаевича Радивила, маршалка господарского, и его судей, а с 1514 г. его же как маршалка земского, совместно с Юрием Ивановичем Илиничем, маршалком господарским и с судьями. Подлинная."

Метрыка. Спр. 222. — "1506 — 1522. Книга судебных решений самого короля и его же совместно с членами "рады". В тых книгах початы писатися листы судовые и тэж про память суды и иншие дела в Городне при великом князи Жикгимонте лета Божъего 1506, мца ноября 20 день, индикта 10. Переписывал Адам Пашкевич".

Метрыка. Спр. 223 — "1510 — 1534. Сборник, составленный из подлинных частей разных книг..."
Метрыка. Спр. 224 — "1522 — 1530. Судебные решения самого короля и его же совместно с членами "Рады". Лета 1522 мца июля 27 день. Справа почаласе при пане Ольбрахте Мартиновичи Кгаштовте, воеводе виленском, канцлеры господарском, у Вилни, как е. м. канцлерство дали. Переписана."
Метрыка. Спр. 231 — "1540 — 1543. Книга королевских решений. Книги короля е. м. Жикгимонта I — суды, жалобы, оповеданья, потвержения данин и иншые розные справы. Переписана в 1596 г."
НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.
НГАБ. Ф. 694 — "Князі Радзівілы"
НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 899 — "Письмо польного гетмана Вел. кн. Литовского Януша Радзивила от 9 февраля 1649 г. жителям княжества о казни 18 участников восстания — земян, мещан и крестьян Давидгородокского княжества. "Пописы" пинской и клецкой шляхты 1528, 1551 гг. (копия), привилей Ремельской церкви, лист на продажу им. Дворец Яном Яновичем Завишей кн. Андрею Ивановичу Вишневецкому и другие документы (старобелорусск., полск.)"
НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1 — "Лідскі земскі суд".
НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 16 — "Актавая кніга", 1 лютага 1796 — 31 снежня 1797 г.
НГАБ. Ф. 1778 — "Полацкі земскі суд".
НГАБ. Ф. 1778. Воп. 1. Спр. 16 — "Актавая кніга", 12 студзеня 1728 — 25 кастрычніка 1728 г.
РДАСА — Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў.
РДАСА. Ф. 389 — "Літоўская Метрыка."
РНБ — Расійская нацыянальная бібліятэка.
РНБ. Ф. 971. Воп. 2 — "Збор аўтографаў П. П. Дуброўскага. Польшча. Ч. 1".
AGAD — Archiwum Glowne Akt Dawnych w Warszawe.
AGAD. ML — "Metrika Litewska".

**Выданні**

АВАК. Т. 13 — Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. СПб., 1886. Т. 13. Акты Главного литовского трибунала.
АВАК. Т. 24 — Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1897. Т. 24. Акты о боярах.
АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. СПб., 1848. Т. 2. 1506—1544.
Боряк. "Пописы земского войска" — Боряк Г.В. "Пописы земского войска" Великого княжества Литовского XVI в. как историко-географический источник (на примере украинских земель) // Исследования по истории Литовской метрики: Сб. науч. трудов. М., 1989. Ч. 2.
Груша. Функцыі — Груша А. І. Функцыі канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага (40–я гады XV—першая палова XVI ст.) // Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітар. навук. 2001. № 3.
Кром — Памятники истории Восточной Европы. Источники XV — XVII вв. М., Варшава, 2002. Т. 6. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. / Сост. М. М. Кром.
Любавский. Областное деление. — Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства ко времени издания Первого Литовского статута. М., 1892.
Любавский. Сейм. — Любавский М. К. Литовско–русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900.
Метрыка 44 — Метрыка Вялікага княства Літоўскага: Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559-1566) / Падрыхт. А. І. Груша. Мінск, 2001.
РИБ. Т. 33 — Русская историческая библиотека, издаваемая Императорскою Археографическою комиссиею. Пг., 1915. Т.33. Литовская Метрика. Отд. 1-й. Ч. 3-я. Книги Публичных дел. Переписи войска Литовского.
Щепкин — Щепкин В. Н. Русская палеография. М., 1967.
AS — Archiwum książat Sanguszków w Slawucie. Lwów, 1890. T. 3: 1432-1534 / Wyd. przez B. Gorczaka.
Laucevičius — Laucevičius E. Popierius Lietuvoje XV-XVIII a. Atlasas. Vil., 1967.
LM-8 — Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 8 (1499 — 1514). Užrašymų knyga 8 / Par. A. Baliulis, R. Firkovičius, D. Antanavičius. Vilnius, 1995.
LM-224 — Lietuvos Metrika (1522 — 1530). 4-oji Teismų bylų knyga (XVI a. pabaigos kopija) / Par. E. Gudavičius, J. Karpavičienė, G. Kirkienė ir kt. Vilnius, 1997.
Łowmiański — Łowmiański H. Zaludnienie państwa Litewskiego w wieku XVI. Zaludnienie w roku 1528 / Do druku przygotowali A. Kijas i K. Pietkiewicz. Poznan, 1998.
UC — Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII — XVIII wieku: Spisy. Kórnik, 1994. T. 11. Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego księstwa Litewskiego XIV — XVIII wieku. Spisy / Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba.

## Тэрміны

абазнач. — абазначэнне
адв. — адварот
адс. — адсутнічае
ал. — аловак
арк. — аркуш
асн. — асноўны
вызнач. — вызначэнне
вын. — вынасны
выпр. — выпраўлена
гл. — глядзі
дад. — дадатковы
дуж. — дужкі
зак. — закрэслена
заканчв. — заканчваецца
інш. — іншы
кв. — квадратны
ліг. — лігатура
нап. — напісана
неразб. — неразборліва
падк. — падкрэслена
падпар. — падпарадкаванне
пар. — параўнайце
пачын. — пачынаецца
поч. — почырк
пр. — просты
рдк. — радок
ркп. — рукапіс
супадпар. — супадпарадкаванне
ўключ. — уключэнне
х-р — характар
чрнл. — чарніла

# ТЭКСТ

## *[4]* [1] Ȣхвала на великомъ со*и*ме Виле*н*скомъ, | в рокȢ 1528, м(е)*с*(е)ца маѧ 1 днѧ, | Ȣчиненаѧ з стороны ѡбороны зе*м*|скоє, ко*л*ко хто с Пано*в*-Ра*д*, вр*ѧ*дник*ов* и вси*х* ѡбы|вателе*и* Великого кнѧ*з*(ства) Ли*т*(о)*в*ского з ымене*и* своих кȢ | слȢжъбе военъно*и* коне*и* ставити маеть |

Напер*веи*[2] | почотъ Пановъ-Ра*д* и*х* м(и)л(о)*с*ти и вр*ѧ*дниковъ такъже двор*ѧ*н | г(о)*с*(по)д(а)ръски*х* и некоторое шл*ѧ*хты значне*и*шоє — Ка*р*та 1 |

Почотъ кн*ѧ*жецъки*и* — *Лист* 7 |

Почотъ пане*и*-вдо*в* воеводины*х*, старостины*х*[3] — *Лист* 8 |

Пови*н*нос*т* въеха*н*ю на слȢжъбȢ вое*н*ную некоторое шл*ѧ*хты — *Лист* 9 |

ПОВЕТЪ ВИЛЕ*Н*СКИ*И* |

Дво*р* Ѡшъмена — Листъ 11 |

Дво*р* Медники — Листъ 19 |

Дво*р* г(о)*с*(по)д(а)ръски*и* Меньски*и* — Листъ 22 |

Дво*р* А*и*на — Листъ 24 ||

*[4 адв.]* Дво*р* Лидъски*и* — Листъ 24 |

Замокъ Новъгоро*д*ски*и* — Листъ 27 |

Дво*р* Ма*р*ково — Листъ 35 |

Реестръ хорȢ*ж*ства Кре*в*ского и Сви*р*ского — Листъ 35 |

Реестръ бо*ѧ**р* рȢдоминъски*х* — Листъ 37 |

Реестръ бо*ѧ**р* мемижъскихъ — Листъ 43 |

Реестръ бо*ѧ**р* керъновскихъ — Листъ 46 |

Реестръ бо*ѧ**р* мо*и*шакгол*с*кихъ — Листъ 51 |

Реестръ бо*ѧ**р* поветȢ Ви*л*коми*р*ского — Листъ 53 |

Реестръ бо*ѧ**р* пен*ѧ*ньскихъ — Листъ 61 |

Бояре бєтыкгольцы — Листъ 63 |

Бояре ше*и*вянъцы — Листъ 63 |

Рее*стр*ъ кн(я)зе*и* и бо*ѧ**р* кгедро*ит*скихъ — Листъ 64 |

Бояре сȢдеревъскиє — Листъ 65 ||

*[5]* Реестръ боя*р* немєнъчинъскихъ — Листъ 66 |

Реестръ боя*р* ѡникштеньскихъ — Листъ 67 |

Реестръ бо*ѧ**р* смолє*н*ских, которие име*н*ѧ Ȣ Браславли маю*т* — *Лист* 67 |

---

[1] *пачын. поч. I*

[2] *пасярэдзіне рдк. больш буйным поч.*

[3] *далей знак скарачэння ў выглядзе* ге

ПОВѢ*Т* ТРО*Ц*КИ |



ТАТАРОВЕ |



ВОЕВО*Д*СТВО ПО*Д*ЛАСКОЄ |



ВОЛЫНЬ |

*[8]* [5]Под лет(о) Божего нарожєнѧ тисеча | пѧтсоть 28, м(е)с(е)ца маѧ 1[6] днѧ, | инъдикта первого[5]. |

**Б**ѹдѹчы г(о)с(по)д(а)рѹ королю и великому кн(я)зю Жикгимонтѹ ѹ Вильни | со всими П(а)ны-Радами Великого кнѧзства Литовъского, на вели|комъ валномъ соиме, рачилъ его м(и)л(о)сть ѹхвалити и ѹстановити | ѡборонѹ земъскѹю, под которымъ ѡбычаемъ мают | П(а)нове-Рады и кнѧжата, и паната, и всѧ шлѧхта | ѹ Великомъ кнѧзстве Литовскомъ кѹ слѹжъбе земскои | завъжды поготовѹ быти, и почотъ конеи з ыменеи своихъ конъно | и зброино ставити водлѹгъ тое ѹфалы и пописѹ земъского, яко всѧ | землѧ списана естъ и колько в кого людеи в ыименех, то все в реи|стрех головных пописаных ѡзнаимено естъ. И ѹстановълено, ижь | хто-колвекъ маеть людеи своихъ в ыименахъ своихъ, тотъ по|виненъ с кожъдых ѡсми слѹжобъ людеи ставити пахолка на | добромъ кони во зброи, з дрєвомъ, с прапоромъ, на которомъ | бы былъ панъцер, прылъбица, мечъ або кордъ, сѹкнѧ цвет|наѧ, павеза и ѡстроги две.

[4] *ніжэй пасярэдзіне* тр
[5-5] *нап. буйным поч. і размешчаны пасярэдзіне як загаловак*
[6] осмого *ж*

Где жъ водлѹгъ списанья | книгъ земскихъ [7]вся земля[7] ѡсѹмована есть, ижъ кожъдыи | князь и панъ з болших становъ и до меньших повинен ставити с осми | слѹжобъ людеи пахолъка на кони. И хто повинен слѹжъбѹ | земъскѹю застѹпати, в тых книгах вси тыи на имя ѡписаны | сѹть под короткимъ способомъ: не пишѹчи сѹмъ людеи, нижли | почты конеи, яко хто маеть слѹжить. А тая ѹстава | положона ѡт того часѹ толко на десять год[8]. ||

## [8 адв.] [9-10]НАПЕРВЕИ ПОЧОТ П(А)НОВ-РАД ИХ М(И)Л(ОСТЕИ) [10-9] |

Князь Янъ, бискѹпъ Виленскии, з ыменеи своих светских, кром дѹховных, мает ста|вити кѹ слѹжъбе земъскои 236 конеи. | Князь Павелъ, бискѹпъ Лѹцкии и Берестеискии, с ыменеи своих светских, | кром дѹховных, мает ставити кѹ слѹжъбе земскои 122 кони. | Князь Миколаи, бискѹпъ Жомоитскии, з ыменеи своих светских мает ста|вити кѹ слѹжъбе земскои 79 конеи. | Панъ Кгаштолт, воевода виленскии, со всих именеи своих мает ставити | кѹ слѹжъбе земскои 466[11] конеи. | Князь Костенътинъ, воевода троцкии, со всихъ именеи своих мает | ставити кѹ слѹжъбе земъскои 426 конеи. | Панъ виленьскии, староста городенскии со всих именеи своих мает | ставити кѹ слѹжъбе земскои 261 конь. | А з Липъска его ж м(и)л(о)ст мает ставити 60 конеи. | Пан Янъ Яновичъ Заберезинъскии со всих именеи своих маеть | ставити кѹ слѹжъбе земъскои 197 конеи. | Панъ Станиславъ Станиславовичъ, панъ троцкии, староста | жомоитскии, со всихъ именеи своих маеть ставити 371 конь. | А кром того со всих именеи панее его и с падчерицою маеть | ставено быти 246 конеи. | Панъ воевода киевскии маеть ставити со всихъ именеи | своихъ кѹ слѹжъбе земъскои 43 кони. | А кромъ того з ыменеи панее его, хто их кольвекъ бѹдет | держати, маеть ставено быти 17 конеи.[12] || *[9]* [13]Пан Григореи Ѡстикович мает ставити кѹ слѹжбе зем|скои 116 конеи. | Пан Юреи Григоревичъ, воеводич троцкии, мает ставити | 131 кон. | Пан Ян Юревичъ Глебовича со всих именеи своих мает | ставити 148 конеи. | А кром того з ыменеи панее его мает ставено быти | 88 конеи. | Пан Ян Миколаевич, подчашии г(о)с(по)д(а)рьскии, мает ставити | со всих своих именеи 61 кон. | Пан Станислав Миколаевич, державца пенянскии, | маеть ставити 39 конеи. | Пан Александро Иванович Ходкевича со всих именеи | своихъ мает ставити 189 конеи, а кромъ | тог(о) зъ зоставных людеи 6 конеи. | А з людеи кнегини Комарицкое, которая в оп|еце пана Александрове ж, маеть ставити | 2 кони. | Єго ж милост зъ заставног(о) дворца, котории мает ѡт п(а)на | Андрея Завишича, мает ставити кон, а з дворца Игнат|ковъского Ѡвдова, ему ж записаног(о), 2 кони. | Пан Иван Андреевич, подскарбии дворныи, маеть | ставити 25 конеи. | Пан Александро Солтановичъ мает ставити | 37[14] конеи. | Пан Миколаи Миколаевичъ Кгезкгаиловича маеть | ставити 151[15] кон. || *[9 адв.]* Пан Матеи Ѡхмистрович мает ставити 47 конеи. | А кромъ того з ыменья подляшского, которое | мает в заставе ѡт тещи своее, 18 конеи. | Ѡн же маеть ставити ѡт боярина своего Я|кѹба Жѹка з ыменячъка его пеняньского | коня. | Пан Богдан Мартинович Хребътовича мает ста|вити 17 конеи. | Пан Василеи Богданович Чиж маеть ставити | 25 конеи. | Пан Якубъ Михаилович Монтовтовича маеть | ставити 37 конеи. | Пан Павел Иванович Сопега мает ставити двад|цат ѡдин конь. | Пан Ян Стецкович Цыбѹлька мает ставити 20 конеи. |

---

[7-7] всей земли *ж*
[8] *далей знак, які падобны да* тр
[9-9] *адс. у ж*
[10-10] *пар. з адпаведным артыкулам у рэестры змесцу*
[11] ста шестдесят шести *ж*
[12] *заканчв. поч. I*
[13] *пачын. поч. II*
[14] трыдцать шесть *ж*
[15] сто осмъдесят одного *ж*

Пан Венцлав Костевич маеть ставити со|рокъ ѡдин кон. | Пан Юреи Немирович мает ставити 16 конеи. | Пан Миколаи Немирович, братъ его, маеть | ставити 4 кони. | Пан Станислав[16] Щитъ мает ставити 4 кони. | Пан Миколаи Пацевич мает ставити 97 конеи. | Пан Ян Юревичъ Ильинича маеть ставити 55 | конеи. | Пан Иван Михаилович, староста пинскии, мает ста|вити 12 конеи. Ѡн же з ыменя своего | Ганезского маеть ставити 7 конеи. || *[10]* Пан Скопъ маеть ставити 17 конеи. | Пан Юреи Едко маеть ставити 29 конеи. | Пан Петръ Станиславович, воевода полоцкии, мает | ставити со всих именеи 224[17] конеи. | Пан Станислав Ильинич мает ставити 55 конеи. | А кромъ того маеть ставено быти з ымен|я их неделеного з Воронцевич 7 конеи. | Пан Богѹшъ Боговитинович, подскарбии земскии, маеть | ставити 64[18] кони. | Панъ Копот Василевич мает ставити 38 конеи. | Пан Ивашко Горностаи мает ставити дванадцат ко|неи и з зоставными людми. А кром заставных людеи | и з своее властности мает ставити 10[19] конеи. | Пан Григореи Громыка мает ставити 10 конеи. | Панъ Павел Нарѹшевичъ маеть ставити | 9 конеи[20]. ||

## *[10 адв.]* [21-22]ВТОРОГО РЄИСТРѸ СПРАВА[22-21] |

Пан Ян Аврамович мает ставити 43 кони. | Пан Миколаи, а пан Станислав, а пан Воитех Юревичи | Сологѹбовича мают ставити з недельныхъ | именеи своих 17 конеи. | А пан Станислав и братъ его пан Миколаи мают ста|вити ѡт деленых именеи своих 7 конеи Соло|гѹбовичи *жс*. | Пан[23] [24]Миколаи з особливых именеи своих мает ставити | 9 конеи[24] Сологѹбович же. | Пан Воитех Сологѹбович мает ставити с одделеных и|менеи своих 8 конеи. | Пан Матеи Михаилович Петковича мает ставити | 25 конеи. | Пан Мартин Михаилович Петковича мает ставити | шеснадцат[25] конеи. | Пан Станислав Петкович маеть ставити | 13 конеи. | Пан Мартин Мелешъкович маеть ставити | 18 конеи. А кромъ тог(о) зъ зоставных | людеи ѡн же мает ставити 4 кони. | Пан Павел Юндилович мает ставити 13 конеи. | А кром тог(о) з ыменеи тещи своее, которая в него | в ѡпеце, ѡнъ же мает ставити 15 конеи. | Пан Воитех Нарбѹтович мает ставити 16 конеи. | Пан Андреи Завишич мает ставити 29 конеи. | Пан Василеи Тишкевич мает ставити 12 конеи. || *[11]* Гаврило Тишкевич мает ставити 4 кони. | Пан Андреи Фалкович мает ставити 8 конеи. | Семен Жаба мает ставити 8 конеи. | Григореи а Василеи Ѡстафьевичи Пѹгашевича | мают ставити 6 конеи. | Федор Данилевич и з братом своим мает ставити | 3 кони. | Сын Андрея Мынцеревича Микита мает стави|ти 3 кони. | Иван Вязметич[26] мает сам ехати кѹ службе земскои. | Лопата, дворанин г(о)с(по)дарьскии, мает ставити 2 кони. | Иван Пѹтивленин[27] мает сам ехати кѹ службе земскои. | Ѡсаитъ Татарин[28] мает ехати самовтор. | Василеи Воротынец мает ставити 2 кони. | Васко Радогощенин самъ[29] к слѹжбе[29]. | Станислав Воишкевич и з братаничи маеть ста|вити 2 кони. | Пан Михаило Шимкович Кибортовича[30] ма-

[16] Миколай *жс*
[17] двесте деветдесять четыры *жс*
[18] семдесят чотыры *жс*
[19] деветь *жс*
[20] *ніжэй палова старонкі пустая, росчырк пяра, на лініі росчырка "фіта"*
[21-21] *вязь: 2/1. Асн. прыёмы: ліг., падпар., уключ. адной літары ў інш.*
[22-22] *адпаведны загалоўку артыкул у рэестры зместу адс.*
[23] *далей у жс нап. і зак.* Мико
[24-24] *адс. у жс*
[25] семпадцать *жс*
[26] Вязмитин *жс*
[27] *х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. рэгіянальнага паходжання*
[28] *х-р вызнач. не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. этнічнай прыналежнасці*
[29-29] ку службе земской ехати *жс*
[30] Нарбутовича *жс*

еть ста|вити 3 кони. | Ѡстафеи Рагозич мает ставити 9 конеи. | Илья Михаилович мает ставити 4 кони. | Щасныи Гримала мает ставити 19 конеи. | Петръ Нарбѹтович мает ставити 13 конеи. | Иван Василевичъ Сопега маеть ставити зъ | браславского именья 9 конеи. | Сенько Шѹтъ[31] мает ставити 2 кони. || *[11 адв.]* Ивашко Сидорович мает сам ехати кѹ слѹжбе земъскои. | Миклаш Андреевич мает ставити 4 кони. | Ян а Станислав Воитеховичи Носиловскии мают ста|вити 17 конеи. | Ѡлекша Покривницкии мает ставити 12 конеи. | Юреи Станиславович Нарѹшевича мает ставити 3 кони. | Станислав Янович Петковича а Андрѹшко Рѹкович мают | ставити 5 конеи. | Ѡстафеи Яцынич мает ставити 17[32] конеи. | Юреи Зелепѹга мает ставити 13 конеи. | Юреи Ежовскии мает ставити 15 конеи. | Петръ Кондратович мает ставити 19 конеи. | Сенько Котович мает ставити 4 кони. | Михаило Котович мает ставити 3 кони. | Тот же Сенко Котович мает ставити з данников, котории | маеть на Рѹси 2 кони. | Станислав Михнович[33] Рачковича мает ставити 4 кони. | Ян Михнович[34] мает ставити 19 конеи. | Миколаи[35] Глебович[36], воеводичъ полоцъкии, мает | ставити 31[37] конь. | Ян Шеметович мает ставити 38 конеи. | Малхер а Станислав мают ставити 13 конеи. | Федор Рагозич мает сам ехати кѹ службе земскои. | Василеи Рагозич маеть ставити 2 кони. | Станислав Станиславович Нарбѹтовича мает | ставити 3 кони. || *[12]* Миколаи Кухмистровича маеть ставити 11 ко|неи. Ѡнъ же маеть ставити з ыменеи киев|ских коня. | Станислав Стецкович мает ставити 6 конеи. | Федор Михаилович Вагановскии мает ставити 19 конеи. | Юреи Михаилович Ѡлехновича мает ставити 17 конеи. | Михаило Федорович Гавриловича и з матъкою | своею маеть ставити 13 конеи. | Пан Ян Петрович Пенко мает ставити 19[38] конеи. | Михаило[39] Зеновевичъ маеть ставити 28 конеи. | Юреи[40] Зеновевич мает ставити 33 кони. | Ян Хрсчонович мает ставити 19 конеи. | Ян[41] Юревич Зеновевича мает ставити 41 кон. | Тые ж вси Зеновевичи мают ставити з данников бобруит|ских 3 кони разом[42-43]. | Пан Немира[44], сын небощика п(а)на Збожного, мает ста|вити 13 конеи. | Пан Шимко Мацкевич, тивѹнъ виленскии, мает ста|вити 7 конеи. | Пан Михаило Халецкии, державца вруцкии, маеть | ставити 16 конеи. | Богѹш Тарѹсич з Городна мает ставити 2 кони. | Пан Ѡникеи Горностаевич, дворанин г(о)с(по)д(а)рьскии, мает ставити 4 кони. | Пан Лев Чижевич, маршалок п(а)на старосты городен|ского, мает ставити 13 конеи. | Гринко Тарѹса, дворанин г(о)с(по)д(а)рьскии, мает ставити 2 кони. || *[12 адв.]* Пан Януш Сопега и с тещею своею кн(е)гинею Крошинскою мают | ставити з ыменья Дѹбеньского 26[45] конеи. | Станислав Некрашевич мает ставити 27 конеи. | Юреи[46] Завишич маеть ставити 34 кони. | Иван Тимофѣевич Горлов[47] мает ставити 18 конеи. | Григореи Петкович мает ставити 4 кони. | Михаило, наместник п(а)на Юревъ ѡникштенскии, мает | самъ ехати ку службе земъскои. | Андреи Мацкевич мает ставити з ыменеи своих и тещи | своее,

[31] Шупич *ж*
[32] осмънадцать *ж*
[33] Михайлович *ж*
[34] Михайлович *ж*
[35] Пан Миколай *ж*
[36] *далей у ж* Есман
[37] трыдцать *ж*
[38] двадцать *ж*
[39] Пан Михайло *ж*
[40] Пан Юрей *ж*
[41] Пан Ян *ж*
[42] *інш. поч. і чрнл.*
[43] *адс. у ж і д*
[44] Ян Немира *ж*
[45] двадцать осм *ж*
[46] Пан Юрей *ж*
[47] Горлович(а) *ж*

# ВОЛОСТЬ КРОЖИ |

Юр*и* Яновичъ ко*н*. | Мате*и* Мин*ал*кгович ко*н*. | Петръ Довкг*а*ло*ит*исъ ко*н*. | Микола*и* Довкша*ит*ис ко*н*. || *[278]* Петръ Миха*и*лович ко*н*. | Станисла*в* Стецкович ко*н*. | Станисла*в* Товтвиловичъ з двема с(ы)ны ко*н*. | Юр*и* Долквиновичъ з братомъ ко*н*. | Ста*с* Яно*ит*ис ко*н*. | Станиславъ Пикелис з бра*т*ею ко*н*. | Юр*и* Юде*и*ка*ит*ис ко*н*. | *Ян* Мацка*ит*ис[782] з бра*т*ею ко*н*. | Григоре*и* Довдвилович 2 ко*ни*. | Анъдре*и* Михновичъ 2 кони. | Ве*н*цлавъ Юхновичъ ко*н*. | Анъдре*и* Сташа*ит*ис з брато*м* ко*н*. | Станисла*в* Ма*р*тиновичъ з брато*м* ко*н*. | Кн*яз* Богданъ Ма*р*тишевич ко*н*. | Юр*и* Якуба*ит*исъ ко*н*. | Юр*и* Михновичъ ко*н*. || *[278 адв.]* Балтроме*и* Томашевич ко*н*. | Бо*р*тко Виловичъ ко*н*. | Станюл Вела*ит*ис ко*н*. | Петрашъ Е*и*ника*ит*ис ко*н*. | Мате*и* Пикелевичъ з две*м*(а) бра*т*(ы) ко*н*. | Грицѹсъ Пе*р*воно*ит*исъ ко*н*. | Вдова Мицковал ко*н*. | Стани*с* Бортко ко*н*. | Ста*н* Анъдрѹшкович з бр(а)*т*(ом) ко*н*. | Янъ Пика*ит*исъ ко*н*. | Яцковал вдова ко*н*. | Степа*н* На*р*вошо*ит*ис конь. | Бортко Стекгиновичъ ко*н*. | Анъдре*и* На*р*ковичъ ко*н*. | До*р*кгис Ми*н*ко*н*то*ит*ис ко*н*. | Микола*и* Радвило*ит*исъ ко*н*. || *[279]* *Ян* Петровичъ ко*н*. | Володко Радивиловичъ ко*н*. | Мате*и* Товошо*ит*исъ ко*н*. | Микутисъ Мо*н*ка*ит*исъ ко*н*. | Римко *Я*нка*ит*ис з бра*т*(ом) ко*н*. | Вито*р*тъ Копъша*ит*ис ко*н*. | Микола*и* Дарнала*ит*исъ ко*н*. | Мицъ Станевичъ ко*н*. | Богданъ Петковичъ ко*н*. | Станисла*в* Радивилович з бра*т*(ом) ко*н*. | Станисла*в* Станевич 3 ко*ни*. | Янъ Пе*т*ко*ит*исъ ко*н*. | Станиславъ Радивила*ит*ис ко*н*. | Во*и*тко Бе*р*натовичъ ко*н*. | Петръ Миколаевичъ ко*н*. | Болтромеевал вдова 2 кони. | Петровал вдова ко*н*. || *[279 адв.]* Юр*и* Ми*н*мо*н*то*ит*исъ з бра*т*(ом) ко*н*. | Ста*н*ко Анъдрѹшко*ит*исъ ко*н*. | [783]Янѹшисъ Анъдрѹшко*ит*ис конь[783]. | Янъко Кибо*р*то*ит*исъ ко*н*. | Грицъ Анъдрѹшка*ит*ис ко*н*. | Юр*и* Следкол*т*овтовичъ з брато*м* ко*н*. | На*р*ко Долкша*ит*исъ ко*н*. | Юцѹсъ Пепровичъ ко*н*. | Янус Кѹсатис конь. | Бе*р*натъ Яновичъ ко*н*. | Стани*с* Рѹко*ит*исъ ко*н*. | Якубовал вдова ко*н*. | Пацъ Яновичъ во*н*. | Станисла*в* Сутковичъ ко*н*. | Яцъ Ваболо*ит*ис ко*н*. | Ко*н*тримъ Рѹка*ит*исъ ко*н*. | Будрѹсъ Радвило*ит*исъ ко*н*. | Вецко Сѹка*ит*исъ з двема бра*т*(ы) ко*н*. || *[280]* Юр*и* Миколаевич ко*н*. | Павел Марътиновичъ з две*м*(а) бра*т*(ы) ко*н*. | Ма*р*тинъ Су*н*кала*ит*исъ з брато*м* ко*н*. | Станиславъ Яно*ит*исъ ко*н*. | Богданъ Мацка*ит*исъ ко*н*. | Станисъ Шажѹка*ит*ис ко*н*. | Шимъко[784] Яно*ит*исъ ко*н*. | Ве*н*цковал вдова ко*н*. | Богда*н* Межа*ит*исъ ко*н*. | Болътроме*и* Ромашковичъ ко*н*. | Ко*н*тримукъ Пикта*ит*исъ ко*н*. | Пацѹ*т* Мица*ит*исъ ко*н*. | Григоре*и* Рада*ит*исъ 2 кони. | Будрисъ Кримъшто*ит*ис з бра*т*(ом) ко*н*. | Янъ Римъшевичъ ко*н*. | Микола*и* Можовичъ з бра*т*(ом) ко*н*. | Ста*н* Лупъшевичъ ко*н*. || *[280 адв.]* Билюсъ Мо*н*ко*н*товичъ ко*н*. | Якубъ Мотевичъ 2 кони. | Пани Янѹшовал 2 кони. | Микола*и* Бо*р*тковичъ 4 кони. | Ма*р*тинъ Яновичъ 2 кони. | Янъко Може*и*ковичъ ко*н*. | Кгалминъ ко*н*. | Анъдре*и* Миколаевичъ ко*н*. | Пацъ Довкг*а*лович ко*н*. | Богданъ Адамовичъ ко*н*. | Римъко Ракги*с* ко*н*. | Пацъ Мо*н*твиловичъ ко*н*. | Михно Миколаевич ко*н*. | Ста*ш*ко Довкгилович ко*н*. | Богушъ Ма*р*тишевичъ ко*н*. || *[281]* Янъ Довкг*а*ловичъ 2 кони. | Серафи*н* Шимъковичъ ко*н*. | Добъко Кге*д*монътовичъ ко*н*. | Стань Пикто*ит*исъ ко*н*. | Юрисъ Викновичъ ко*н*. | Мате*и* Юде*и*ковичъ ко*н*. | Грицъ Левчевичъ 2 кони. | Якубъ Петрашевичъ ко*н*. | Ма*р*тинъковал Петрашевичъ ко*н*. | Адамъ Петковичъ ко*н*. | Беръташъ Петковичъ ко*н*. | Станиславъ Ѡлехновичъ ко*н*. | Пилипъ ко*н*. | Кгабриял Мицковичъ ко*н*. | Петръ На*р*ѹшевичъ ко*н*. | Гри*ц* Юсвидовичъ ко*н*. | Петръ Кѹшле*и*ковичъ ко*н*. || *[281 адв.]* Юрисъ Миколаевичъ ко*н*. | Конътримъ Доме*и*ковичъ ко*н*. | На*р*ко Луча*ит*ис ко*н*. | Ма*н*вилъ Куна*ит*ис з брато*м* ко*н*. | Вдова Юшковал ко*н*. | Янъ Родевичъ з брато*м* ко*н*. | Шимъко Да*р*кговичъ ко*н*. | Щепанъ Мозъкгевичъ ко*н*. | Римъко Довкги*н*товичъ ко*н*. | На*р*ко Мо*н*виловичъ ко*н*. | Анъдре*и* Мо*н*твило*ит*исъ ко*н*. | Микола*и* Станюковичъ ко*н*. | Юшко Миколаевич ко*н*. | Ма*ц* Нарѹтовичъ ко*н*. | Ши*м*ко Родевичъ

[782] к *над рдк.*
[783-783] *упісана паміж рдк.*
[784] ко *ўпісаны ў рдк.*

кон. | Лавринъ Якубович кон. || *[282]* Лаврин Витортовичъ кон. | Мицко Канътримовичъ кон. | Ясь Микутевичъ кон. | Якубъ Диркгинтовичъ кон. | Станис Мортеиковичъ кон. | Анъдреи Нарвиловичъ кон. | Павелъ Пацевичъ кон. | Римъко Витортович кон. | Мартинъ Юревичъ з братом кон. | Павел Миколаевичъ з брат(ом) кон. | Петръ Миколаевичъ кон. | Ȣръбан Якубовичъ кон. | Петръ Юшковичъ кон. | Вдова Добъковаѧ кон. | Лаврин кон. | Станиславъ Букoнтовичъ кон. | Анъдреи Воитковичъ 3 кони. | Волентинъ 2 кони. || *[282 адв.]* Ян Некипелыи кон. | Томашь Петкович кон. | Петръ Кгедвоиновичъ кон. | Петръ Якминовичъ кон. | Янъ Володковичъ кон. | Петръ Станевичъ кон. | Миколаи Митевич кон. |

## [785]ВОЛОСТ КЕЛЬМЕНСКАЯ[785] |

Петръ Станюкаитис з братом кон. | Римъко Яновичъ кон. | Янъ Нарвошоитис кон. | Мартин Разаитис з братом кон. | Кгедковтъ Минкавдаитис кон. || *[283]* Ловдюсъ Будроитис кон. | Мицко Едниноитис кон. | Микут Талюшовичъ кон. | Миколаи Воишвиловичъ кон. | Миколаи Анъдрȣшковичъ кон. | Станиславъ Воизкгеновичъ кон. | Ян Кгаилевичъ кон. | Якуб Будревичъ кон. | Юхно Юшевичъ кон. | Янъ Видмонтовичъ кон. | Кгаиль Межовичъ кон. | Вдова[786] кон. | Борпеико Кгедвилович кон. | Юшко Юркгоитисъ кон. | Григор Пикалаитис кон. | Мартинъ Ропановичъ кон. | Богданъ Левчевичъ кон. || *[283 адв.]* Вдова Марина Мацковаѧ Станевича кон. | Станислав Анъдрȣшковичъ кон. | Миколаи Нарвиловичъ кон. | Мицко Юревич 4 кони. | Ян а Станислав Воитеховичи Ѡрвидовича | шесть конеи. | Анъдреи Бартошевич 2 кони. | Петко Кгелбедовичъ[787] кон. | Сташко Некипелыи кон. | Юри Завишичъ 2 кони. | Янъ, подскаръбии, кон[788]. ||

## *[284]* ВОЛОСТ ТОНДАГОЛА |

Юшко Моствиловичъ кон. | Ромутисъ Юревичъ кон. | Матеи Бутковичъ, хорȣжии, кон. | Миколаи Богданович и з свояком кон. | Матеи Яновичъ кон. | Кгабрыял Довъятовичъ кон. | Степанъ Доркгоильтовичъ з бр(а)т(ом) кон. | Юрисъ Явниловичъ з двема брат(ы) кон. | Рȣпеико Вишȣтевичъ кон. | Янȣшко Петковичъ кон. | Петръ Якъшевич кон. | Венцлавъ Яновичъ кон. | Анъдреи Сȣдиковичъ кон. | Рȣпека Вишȣтаитис кон. | Янъ Юшковичъ кон. || *[284 адв.]* Мацко Монковичъ кон. | Ѡлехно Монкович кон. | Вдова Пашковаѧ кон. | Нелюбъ Мирнаивътовтовичъ кон. | Янъ Прачевичъ кон. | Миколаи Петровичъ кон. | Матеи Нарковичъ кон. | Венцлавъ Петкович кон. | Петко Товтвилаитис кон. | Мицко Виртартаитис кон. | Янȣшъ Наркунъ кон. | Петръ Романович кон. | Александръ Станкоитис кон. | Станько Ивашъковичъ кон. | Матеи Столюкаитисъ кон. | Михъно Ивашковичъ кон. | Бортко Станковичъ кон. || *[285]* Себестиянъ Миколаевич кон. | Матеи Едовичъ з братомъ кон. | Станислав Бутовтович з двем(а) брат(ы) кон. | Роман Кимeнтоитисъ кон. | Мартинъ Доркгаитис кон. | Бартош Можеиковичъ кон. | Станько Петрашевич кон. | Бартошъ Воитковичъ кон. | Матеи Стирпеикоитис з брат(ом) кон. | Ян Ганȣсовичъ з двема брат(ы) кон. | Мартинъ Андрȣшкаитис кон. | Юри Дрȣсȣтаитис кон. || *[285 адв.]* Венцлавъ Володковичъ кон. | Сташъко, Семашковъ зат, кон. | Нарвот Кгирвотаитисъ кон. | Вдова Брȣжоваѧ кон. | Пет[789] Матеевичъ кон. | Вдова Томашоваѧ кон. | Лукаш Юревичъ кон. | Гридко Володкович кон. | Богдан Плюсковъ 3 кони. | Матеи Воитковичъ кон. || *[286]* Балтромеи Яцковичъ 2 кони. | Балтромеи Станевичъ кон. | Петръ Кгедкголтаитисъ кон. | Станислав Станиславович кон. | Шимон 2 кони. | Венцлавъ Боярин кон. | Богдан кон. | Михаило 2 кони. |

---

[785-785] *вязь: 1,5/1. Асн. прыёмы: ліг., падпар., супадпар.*
[786] *х-р вызнач. не зразумелы*
[787] л *вын. нап. інш. чрнл.*
[788] *ніжэй менш за палова старонкі пустая, перакрэслена*
[789] *так у ркп., трэба чытаць* Петр

## [790]ДВОР ЯСВОИНИ[790] |

Павел Довоинович кон. | Юшко Кголконтович кон. | Воитко Кондратович кон. | Мицко Мацкович кон. || [286 адв.] Стас Петрашкович кон. | Воитех Станиславович кон. | Юри Матеевич кон. | Пацъ Петрашевич кон. | Станислав Наркович кон. | Янъ Якубович кон. | Вдова Володковаѧ кон. | Матеи Стекгвилович кон. | Кназ Балтромеи кон. | Амъброжеи Андрꙋшкович кон. | Янъ Некрашевич, хорꙋжии, з братанною кон. | Михаило Юревич кон. | Станислав Мацович кон. | Ѡлехно Валевич кон. | Стекгвил Валевич кон. || [287] Михаило Локъсвадович кон. | Мартинъ Рꙋкович кон. | Лаврин Якубович кон. | Станислав Якубович кон. | Сутко Романович кон. | Пацъ Довкгинович кон. | Мацъ Довкгинович кон. | Мацъ Радивонович кон. | Мицъ Мотовтоитис кон. | Анъдрꙋсъ Радивонович з братом кон. | Анъдреи Мостович кон. | Янꙋшко Нацович кон. | Богдан Юревич кон. | Андреи Яцкович кон. | Янꙋшко Станевич кон. | Кгидюс Билевич кон. | Янъ Пашкович кон. | Бакъ Матеевич кон. || [287 адв.] Миколаи Бартошевич кон. | Якимъ Доркгилоитисъ кон. | Петрашъко Мицкович кон. | Александръ Балтромеевич кон. | Воитех Берташевич кон. | Матеи, хоружии, кон. | Лукашъ Ямонтович кон. | Вдова Юреваѧ Наркович кон. | Хрщон Ятовтович кон. | Анъдрꙋшко Вилевич кон. | Матеи Богданович з братом кон. | Вдова Товкеваѧ кон. | Роман Бернатович кон. | Ян Кгинятович кон. | Бутко Довъятович кон. | Лавринъ з братомъ кон. | Станислав Скирвоинович з двема браты кон. ||

## [288] [791]ВИДꙋКЛЬСКОЄ ВОЛОСТИ[791] |

Грицъ Миреикович конь. | Якубъ Витортович конь. | Марътинъ Векович 10 конеи. | Пани Венцлавоваѧ Бартошевича 3 кони. | Подскарбего небожчика[792] Пашка 4 кони. | Мартиноваѧ Петрашевича 5 конеи. | Лукашъ Миколаевич Вековича 4 кони. | Миколаеваѧ Володкевича 5 конеи. | Станислав Володкевич Козак 4 кони. | Воитех Семашкович 2 кони. | Панъ Станиславъ Кухмистрович 8 конеи. | Адамъ Ганꙋсович 10 конеи. | Небожчика п(а)на Станислава Сиревича 19 конеи. | Панъ Адрꙋшко[793] Рꙋкович 11 конеи. |

790-790 *вязь: 1/1*
791-791 *вязь: 1,5/1. Асн. прыём: уключ. адной літары ў інш.*
792 ка, *відавочна, упісаны ў рдк.*
793 *так у ркп., трэба чытаць* Андрꙋшко



Фота 4. Арк. 52 адв. Тэкст — поч. III. Паметка — поч. VI пм

# НАВУКОВА-ДАВЕДАЧНЫ АПАРАТ

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ*

У паказальніку адзначаюцца імёны ўсіх асоб, якія сустракаюцца ва ўводзінах, у прадмове, тэксце рукапісу, заўвагах (за выключэннем розначытанняў), пераліку скарачэнняў, прадмове да геаграфічнага паказальніка-каментарыя.

У імёнах, якія фігуруюць у тэксце рукапісу, дыграф "кг" замяняецца на "г". У тых выпадках, калі не ўяўляецца магчымым дакладна ўстанавіць, ці хаваюцца ў розных частках рукапісу пад адным і тым жа імем адны і тыя ж або розныя асобы, кожнае імя адзначаецца ў асобных артыкулах. "Ъ" і "ь" выкарыстоўваюцца па сучасных правілах правапісу. Вынасныя літары курсівам не вылучаюцца. Выкарыстоўваецца "й". Ад памылковых і сумніўных напісанняў даюцца адсылкі на правільныя. Прапушчаныя ў рукапісу часткі імён заключаюцца ў квадратныя дужкі. Памылковыя і сумніўныя напісанні ў асноўнай згадцы прыводзяцца пасля адрэстаўраваных у круглых дужках, пры гэтым пасля сумніўных ставіцца знак пытальніка, пасля яўна памылковых — скарачэнне "памылк." ("памылкова"):

**Андре[е]вич Миколай**, з. Бельскай з-лі Падляшскага в-д. 196
**Миколай Андревич** *гл.* Андре[е]вич Миколай
**Голоюх Станислав** (Станистанислав *памылк.*), з. Бельскай з-лі Падляшскага в-д. 145 адв.; *с. 122*
**Станислав Голоюх** *гл.* Голоюх Станислав
**Станистанислав Голоюх** *гл.* Голоюх Станислав
**Андрей Коширский** *гл.* Коширский Андрей
**Вандрей Коширский** *гл.* Коширский Андрей
**Коширский Андрей** (Вандрей *памылк.*), кн., кн. Валынскай з-лі 201; *с. 149*
**Быковский** (Быховский-?) **Гридя** 14; *с. 54*
**Быховский Гридя** *гл.* Быковский Гридя
**Гридя Быковский** *гл.* Быковский Гридя
**Гридя Быховский** *гл.* Быковский Гридя

Кожная асоба адзначаецца, як пад прозвішчам ці імем-мянушкай, так і пад асабовым імем, а калі няма прозвішча ці імя-мянушкі (далей — прозвішча) — пад імем па бацьку. Калі асоба мела двайное прозвішча, яна адзначаецца як пад першым, так і пад другім прозвішчамі. Калі асоба апрача асабовага імя і імя па бацьку, мела і імя па дзеду, яна адзначаецца і пад імем па дзеду. Імёны ў паказальніку на беларускую мову не перакладаюцца. Аднак, калі асабовае імя, імя па бацьку і дзеду, прозвішча сустракаюцца ў выданні і на беларускай мове, беларускамоўныя формы элементаў імя разглядаюцца як

* Прынятыя скарачэнні: б — баяры, баярын, баярыня; в-д. — ваявода, ваяводства; вол. — воласць; вял. — вялікі; г. — год, горад; дв. — дваранін; дз-ца — дзяржаўца; з. — зямянін, зямянка; з-ля — зямля; кар. — каралева, кароль; кн. — князь; кнг. — княгіня; княж. — княжна; літ. — літоўскі; м. — мястэчка; марш. — маршалак; м-к — маёнтак; мяшч. — мяшчанін; нам. — намеснік; п. — пан; пав. — павет; памылк. — памылкова; пол. — польскі; с. — старонка, сяло; сс. — сёла; с-та — староста; т. — татарка, татары, татарын; хар. — харужы, харужства.

варыянты. Калі асоба згадваецца толькі пад асабовым імем і фігуруе ў выданні і па-старабеларуску, і па-беларуску, у асноўнай згадцы прыводзіцца асабовае імя па-беларуску, а да гэтай згадкі робіцца адсылка ад асабовага імя па-старабеларуску. Калі мужчына, які мае прозвішча, фігуруе ў выданні і па-старабеларуску, і па-беларуску, у асноўнай згадцы ён адзначаецца пад прозвішчам па-беларуску, а да гэтай згадкі робіцца адсылка ад асабовага імя па-беларуску, прозвішча і асабовага імя па-старабеларуску. Імёны на "-іч", калі не магчыма ўстанавіць ці з'яўляюцца яны прозвішчамі, ці не, умоўна лічацца прозвішчамі. Калі мужчына, які мае прозвішча, фігуруе ў выданні толькі па-старабеларуску, у асноўнай згадцы ён адзначаецца пад прозвішчам па-старабеларуску, а да гэтай згадкі робіцца адсылка ад асабовага імя па-старабеларуску. Замужняя жанчына, элементы поўнага імя якой уключаюць асабовае імя мужа, яго прозвішча, яе асабовае імя і імя па бацьку, у асноўнай згадцы адзначаецца пад прозвішчам мужа, а да гэтай згадкі робіцца адсылка ад асабовага імя па мужу і яе асабовага імя. Калі жанчына фігуруе ў рукапісу толькі пад асабовым імем і імем па бацьку, у асноўнай згадцы яна адзначаецца пад асабовым імем, а да гэтай згадкі робіцца адсылка ад імя па бацьку. У асноўнай згадцы замужняй жанчыны, якая адзначана пад асабовым імем і прозвішчам мужа, яе асабовым імем і імем па бацьку, пасля прозвішча па мужу ідзе імя па мужу, затым яе асабовае імя і імя па бацьку.

Калі не зразумела, што абазначае вызначэнне пры імені асобы: прозвішча, імя-мянушку або рэгіянальнае паходжанне; прозвішча, імя-мянушку або этнічную прыналежнасць і г. д., гэта акалічнасць агаворваецца. Пры гэтым асоба, пры імені якога даецца такое вызначэнне, прыводзіцца двойчы: з вызначэннем, якое абазначае прозвішча ці імя-мянушку і з вызначэннем, якое абазначае рэгіянальнае паходжанне, этнічную прыналежнасць і г. д. Напрыклад:

**Алексей**, смальнянін *х-р вызнач.* Смольнянин *не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. прозвішча ці імя-мянушкі*, б. Пінскага пав. 210 *гл.* Алексей Смольнянин

**Смольнянин Алексей** *х-р вызнач.* Смольнянин *не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. рэгіянальнага паходжання*, б. Пінскага пав. 210 *гл.* Алексей

**Борткович Татарин** *х-р вызнач.* Татарин *не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. этнічнай прыналежнасці*, б. Рудамінскага пав. Віленскага в-д. 48 адв. *гл.* Борткович

**Борткович**, т. *х-р вызнач.* Татарин *не зразумелы, магчыма — гэта абазнач. імя*, б. Рудамінскага пав. Віленскага в-д. 48 адв. *гл.* Борткович Татарин

Калі форма імя у назоўным склоне можа выклікаць сумненні, у асноўнай згадцы ў двукоссях прыводзіцца цытата з крыніцы, у якой гэта імя фігуруе. Само імя таксама прыводзіцца ў двукоссях:

**"Кумпь"** "Кумпев зять", б. Гародзенскага пав. Троцкага в-д., яго зяць — Яцко 101 адв.

**"Гром"** "Громов зять", б. Берасцейскага пав. Троцкага в-д., яго зяць — Федко 107 адв.

**Федко**, б. Берасцейскага пав. Троцкага в-д., яго цесць — "Гром" "Громов зять" 107 адв.

Адсылкі да імён, якія змешчаны ў тэксце рукапісу, даюцца на нумары аркушаў. Імёны, якія змяшчаюцца ва ўводзінах, прадмове, заўвагах, пераліку скарачэнняў, прадмове да геаграфічнага паказальніка-каментарыя, адзначаюцца са спасылкамі на старонкі выдання. Пры гэтым перад нумарам старонкі ставіцца "*с.*". Калі слова сустракаецца як у тэксце рукапісу, так прадмове і заўвагах, спачатку адзначаюцца аркушы, затым праз кропку з коскай — старонкі, пры гэтым перад абазначэннем старонак ставіцца "*с.*" Нумары старонак да імён, якія змешчаны ў пазнейшых запісах, дапісках і ўстаўках, вылучаюцца тоўстым курсівам.

*Кандыдат гістарычных навук*
*А. І. Груша*

16 Зак. 1525

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК-КАМЕНТАРЫЙ*

Як вядома, разнастайныя геаграфічныя аб'екты, пераважна населеныя пункты, сустракаюцца амаль у кожнай гістарычнай крыніцы Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і далей (ВКЛ). Але выкарыстанне такіх аб'ектаў у даследаваннях іншы раз па розных прычынах натыкаецца на пэўныя складанасці ідэнтыфікацыі і лакалізацыі многіх з іх, асабліва дробных.

У Перапісе войска ВКЛ 1528 г. розныя геаграфічныя аб'екты фігуруюць у яго розных асноўных структурных частках, якія перш за ўсё адпавядаюць тагачасным адміністрацыйна-судова-ваенна-тэрытарыяльным адзінкам першага рангу гэтай дзяржавы: 1) "Виленский повет" (ваяводства), 2) "Троцкий повет" (ваяводства), 3) "Подляшское воеводство", 4) "Волынская земля", 5) "Полоцкая земля" (ваяводства), 6) "Витебская земля" і 7) "Жомойтская земля". Рэгіянальнае размяшчэнне геаграфічных аб'ектаў мае пэўнае значэнне пры вырашэнні пытанняў іх ідэнтыфікацыі і лакалізацыі.

Геаграфічныя звесткі ў рэгіянальных спісах шляхты ВКЛ маюць, як правіла, істотныя асаблівасці. У Віленскім і Троцкім ваяводствах фігуруюць пераважна адміністрацыйна-судова-ваенна-тэрытарыяльныя адзінкі другога рангу — паветы і іх цэнтры. Іншыя геаграфічныя аб'екты ў гэтых спісах сустракаюцца адносна рэдка. Тое ж назіраецца і ў "пописе шляхты земли Жомойтское…", дзе ў якасці геаграфічных аб'ектаў фігуруюць амаль выключна "волости", г. зн. тэрытарыяльныя адзінкі трэцяга рангу.

Істотныя асаблівасці маюць геаграфічныя даныя ў рэестрах зямян Падляшскага ваяводства. У Дарагіцкай зямлі гэтага ваяводства геаграфічныя аб'екты ўпамінаюцца без наменклатур звычайна ў форме выразаў тыпу: "Войтковскии", "Вышемерскии, земяне," "Глуховскии, земяне," і г. д. Аналагічны характар маюць геаграфічныя даныя і ў рэестры зямян мельніцкіх Падляшскага ваяводства: "Боратынскии", "Бернатскии", "Кореневскии, земяне," і г. д.

Аналіз гэтых і адпаведных даных Дарагічынскай зямлі і Мельніцкага павета Перапісу войска ВКЛ 1567 г. дазваляе сцвярджаць, што ў прыведзеных прыкладах фігуруюць не прозвішчы зямян, а ў своеасаблівай форме назвы жыхароў пэўных сёл. Так, "Войтковскии" Перапісу 1528 г. у Перапісе 1567 г. фігуруюць як жыхары сяла "Войтковиче Старе" (18, с. 916—917); "Осинскии, земяне," — як жыхары старога сяла "Осины" (18, с. 1003); а "Секлицкии" — як жыхары сяла "Секлюки" (18, с. 885—886).

У адрозненне ад рэестраў зямян Дарагічынскай зямлі і Мельніцкага павета ў адносна вялікім рэестры зямян Бельскай зямлі Падляшскага ваяводства геаграфічныя аб'екты фігуруюць звычайна ў формах "Село Болесты, земяне," або "Село Нивино, Поплавскии, земяне,". Да таго ж усе зямянскія сёлы ў гэтым рэестры згрупаваны ў пятнаццаці парафіях: "Бельской", "Бронской" (Бранской), "Вышенской", "Вышковской", "Долобовской", "Домановской", "Дубровской", "Кобылинской", "Кулешской", "Лубинской", "Плонской", "Саражской", "Сокольской", "Топичевской" і "Яблоньской". Вызначэнне парафіяльнай прыналежнасці пасяленняў аблягчае іх ідэнтыфікацыю і лакалізацыю.

---

* Прынятыя скарачэнні: ап. — апілінка; б. — бояре, боярин; в. — вёска; в-д. — ваяводства, воевода, воеводство; вер. — верагодна; ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і далей; вобл. — вобласць; вол. — волость; г. — горад; гм. — гміна; гос. — господарский; гп. — гарадскі пасёлак; гс. — гарадскі савет; дв. — двор; зем. — земяне, земянин; и. — имение; ЛР — Літоўская Рэспубліка; м. — мястэчка; мщ. — мещанин, мещане; пов. — повет; пар. — парафия; пс. — пасялковы савет; РБ — Рэспубліка Беларусь; р-н — раён; РП — Рэспубліка Польшча; с. — село; сс. — сельсавет; у. — уезд; хор. — хоружая, хоружий, хоружство; ц. — центр, цэнтр.

Варта таксама заўважыць, што многія суседнія сёлы Бельскай зямлі мелі двухчленныя назвы з агульным элементам: "Новое Ольшово", "Ольшевских", "Старое Ольшево"; "Багинских Томковят", "Багинских Якубувят"; "Выпыхи-", "Грегоревята-", "Макары-", "Шепетки-Боровских"; "Космытки Лапы", "Лапы-", "-Витове", "-Жакове", "-Квиты", "-Корчакы", "-Рахове", "-Углеве", "Лопеней" і г. д. Такія сёлы, відавочна, з'яўляліся дробнымі часткамі вялікіх шляхецкіх ваколіц, якія ўтварыліся ў выніку паступовых раздзелаў і рассяленняў першапачатковых сямей шляхты. Яны захоўваліся і ў далейшым (36, s. 27, 31 і інш.).

Аналіз жа выкарыстаных картаграфічных матэрыялаў сведчыць аб тым, што пэўным зямянскім сёлам 1528 г. адпавядаюць пэўныя сучасныя населеныя пункты, якія, як правіла, захавалі свае гістарычныя назвы. Таму і такія своеасаблівыя геаграфічныя назвы мы таксама ўключылі ў дадзены геаграфічны паказальнік-каментарый.

Вялікая колькасць розных тапонімаў узнаўляецца на падставе назваў не геаграфічных аб'ектаў, а толькі геаграфічных прыметнікаў – назваў, у прыватнасці, рэгіянальных груп "бояр", "земян", "татар" і іншых катэгорый ваеннаабавязаных служылых людзей, а таксама тагачасных службовых пасад. Без геаграфічных тэрмінаў фігуруюць нават буйныя населеныя пункты: "Бельск", "Браславль", "Городно", "Дорогичин", "Ковно", "Мельник", "Москва", а таксама шмат іншых геаграфічных аб'ектаў. Мы ўслед за М. К. Любаўскім (7, с. 17, 20, 22, 180—190) насуперак усебакова не абгрунтаваным поглядам польскіх гісторыкаў (48, s. 14) не лічым, што Берасцейскі павет у 1528 г. знаходзіўся ў складзе Падляшскага, а не Троцкага ваяводства, таму сэнс выразу "А то земяне подляшскии, што людей не мають", які размешчаны адразу пасля кароткага "Реистру земян берестейских", дакладна цяжка зразумець. Па кантэксту "берестейские земяне" адносіліся да Троцкага павета, а таму "подляшские" павінны былі быць улічанымі ў рэестры зямян Падляшскага ваяводства. Не зусім зразумелымі ўяўляюцца нелагічныя выразы тыпу: "Бирштанский повет Троцкого повета", "Вилькомирский повет Виленского повета", "Керновский повет Виленского повета", "Мойшокголский повет Виленского повета". Тое ж трэба адзначыць адносна выразу "Реистр бояр Ковенского повету Троцкого". Усе гэтыя факты сведчаць аб недастатковай распрацаванасці геаграфічнай тэрміналогіі ў тагачаснай "рускай" мове, на якой у ВКЛ ствараласяя большасць пісьмовых крыніц. Таму адзін і той жа тэрмін абазначаў істотна розныя паняцці. Гэта абумоўлівае пэўныя цяжкасці ў асэнсаванні, у прыватнасці, некаторых даных па геаграфіі ВКЛ XVI ст.

Неабходна таксама падкрэсліць тое, што мы пры наяўнасці імяннога паказальніка ў адрозненне ад Г.У. Борака (2), як правіла, не ўлічвалі назвы тых паселішчаў, якія можна ўзнавіць ад некаторых прозвішчаў пэўнага геаграфічнага паходжання, г. зн. адтапонімных антрапонімаў. Таму ў нашым паказальніку адсутнічаюць назвы існуючых у Мінскай вобласці населеных пунктаў Пашкавічы, Ратамка і Стаўбуновічы, ад якіх утварыліся тапаантрапамонімі, фігуруючыя, напрыклад, у Перапісе 1528 г. "бояр меньских": "Пажковский", "Ратомский", "Столбунович" і г.д.

У выніку дэталёвага аналізу ўсіх тапонімаў у розных формах і кантэкстах высветлілася, што ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г. адлюстраваны 644 розныя геаграфічныя аб'екты: "бискупств" — 2, "воеводств" — 5, "волостей" — 21, "дворов" — 9, "держав" — 4, "замков" — 3, "земель" — 6, "имений" — 16, "парафий" — 15, "поветов" — 12, гістарычных рэгіёнаў — 5, "сёл" — 276, "староств" — 5, "хоружеств" — 25 і іншых, амаль выключна населеных пунктаў, але без вызначэння геаграфічных наменклатур.

Важнай часткай тапонімаў, што зафіксаваны ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г. у розных формах і кантэкстах, з'яўляюцца назва самой дзяржавы "Великое князство Литовское", а таксама назвы пяці гістарычных рэгіёнаў ВКЛ ("Волынь", "Жомойть", "Литва", "Подляшье" і "Русь"; 10, 26) і яго дзяржаўных адміністрацыйна-судова-ваенна-тэрытарыяльных адзінак розных рангаў: першага рангу (ваяводствы: "Виленское", "Киевское", "Подля(ш)ское"; "Полоцкое" і "Троцкое"; землі: "Витебская", "Волынская", "Дорогицкая", "Жомойтская", "Мстиславская" і "Полоцкая"), другога (паветы: "Бельский" (і "земля"), "Виленьский", "Дорогицкий" (і "земля"), "Мельницкий", "Мстиславский", "Троцкий" і іншыя), а таксама воласці: "Бержаны", "Биржаняны", "Вешвяне" і іншыя. Вартыя ўвагі і звесткі аб ваенна-тэрытарыяльным дзяленні ВКЛ. Яны адлюстраваны, у прыватнасці, пераважна ў кантэкстах: "хоружая", "хоружий" і "хоружство". Усяго апошніх адзінак мы налічылі 25: "Бирштанское", "Василишское", "Веленское", "Вилькейское", "Витебское", "Высокодворское", "Ейшишское", "Ковенское", "Кревское", "Курклевское", "Лепуньское", "Медницкое", "Мемижское", "Мерецкое",

"Мойшакголское", "Новгородское", "Остриньское", "Ошменское", "Пенянское", "Рудоминское", "Свирское", "Сомилишское", "Тондягольское", "Троцкое" і "Ясвойнское". Мяркуючы па падліках розных даследчыкаў, якія да 1565 г. налічвалі ў ВКЛ больш, чым 70 харужстваў (33, s. IV–VI; 9; 35, s. 178–180), адпаведныя звесткі Перапісу 1528 г. уяўляюцца далёка не поўныя.

Абсалютная большасць тапонімаў (637 або 98,9% усіх) абазначае розныя населеныя пункты або ўтворана ад іх назваў. Мяркуючы па адпаведных даных, у прыватнасці, другога вядомага даследавання М.К. Любаўскага (7), дзе ў розных кантэкстах упамінаюцца 2030 населеных пунктаў, з якіх на яго карце на тэрыторыі ВКЛ абазначаны 859 (8), у Перапісе войска ВКЛ 1528 г. адлюстравана толькі нязначная колькасць паселішчаў, што існавала ў той час у гэтай дзяржаве. Дарэчы, згодна ж з нашымі падлікамі пасяленняў, якія ўпамінаюцца ў Перапісе войска ВКЛ 1567 г., толькі ў Ашменскім павеце Віленскага ваяводства іх названа больш 300 (21; 22, с. 106). Нягледзячы на гэта, даныя Перапісу 1528 г. аб населеных пунктах уяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць: гэта першая крыніца XVI ст. з масавымі данымі аб іх.

Адной з асноўных праблем пры складанні дадзенага геаграфічнага паказальніка-каментарыя з'яўляліся ідэнтыфікацыя гістарычных населеных пунктаў, асабліва дробных сельскіх, з існуючымі або існаваўшымі і тым самым лакалізацыя іх. Складаная праблема месцазнаходжання гістарычных паселішчаў вырашалася на падставе даных некаторых даследаванняў (7; 10; 27; 36; 44), а таксама шляхам пошукаў адпаведных даных на сярэднявечнай карце (42), навуковых гістарычных картах (8; 23; 34; 37; 45), расійскіх (1:126 000, 1:420 000) XIX—пачатку XX ст. (3; 20), савецкіх і польскіх тапаграфічных, аглядна-тапаграфічных, агульнагеаграфічных, а таксама адміністрацыйных і іншых картах (1:200 000, 1:300 000, 1:500 000, 1:1 000 000) апошніх дзесяцігоддзяў (5; 17; 19; 29—31; 38—40; 43; 46—47; 49—51), на якіх адлюстравана тэрыторыя былога ВКЛ. Пры гэтым асноўным прынцыпам ідэнтыфікацыі і лакалізацыі гістарычных населеных пунктаў была сугучнасць гістарычных і сучасных назваў. Улічваліся таксама пэўныя лакалізуючыя прыкметы, асабліва павятовая, ваяводская або парафіяльная прыналежнасць населеных пунктаў. Іншы раз, калі гістарычныя назвы паселішчаў ВКЛ у выніку паланізацыі, русіфікацыі, беларусізацыі, украінізацыі і літуанізацыі, а таксама масавых пераіменаванняў у савецкі перыяд (4) адрозніваюцца ад сучасных (напрыклад, "Видогоща"—"Камсамолец"), вырашыць праблему іх ідэнтыфікацыі і лакалізацыі было вельмі складана.У выпадках жа, калі існаваўшыя населеныя пункты па розных прычынах зніклі (11, с. 3—4; 13, с. 11) і гэта не адлюстравана ў выкарыстаных намі даведачных матэрыялах, ідэнтыфікаваць і лакалізаваць такія паселішчы аказалася немагчымым. Таму некаторыя пазіцыі дадзенага паказальніка захоўваюць пэўную ступень гіпатэтычнасці, а некаторыя гістарычныя населеныя пункты зусім не ідэнтыфікаваны і не лакалізаваны.

У выніку адпаведных пошукаў нам удалося ідэнтыфікаваць і лакалізаваць большую частку (540 або 84,8% усіх 637) населеных пунктаў Перапісу войска ВКЛ 1528 г. Найбольшая колькасць паселішчаў адлюстравана ў рэестры зямян Падляшскага ваяводства: 482 або 75,7%. Паколькі павятовая або ваяводская прыналежнасць большасці астатніх паселішчаў у Перапісе войска 1528 г. не паказана, мы высветлілі гэта пытанне па вядомых картах М. К. Любаўскага (8) і Я. Якубоўскага (34). У адпаведнасці з імі ў Віленскім ваяводстве былі размешчаны 50 паселішчаў або 7,8%, у Троцкім — 44 або 6,9%, у Жамойцкай зямлі — 24 або 3,8%. Астатнія населеныя пункты (37 або 5,8% усіх) знаходзіліся ў іншых ваяводствах і землях ВКЛ, а таксама на тэрыторыі суседніх краін (Рускай дзяржавы: Масква і Смаленск; Каралеўства Польскага: Ломжа). Аднак дадзеныя падлікі прыблізныя, таму што ваяводская прыналежнасць неіндыфікаваных і нелакалізаваных паселішчаў вызначалася намі гіпатэтычна.

Варта таксама адзначыць, што, як высветлілася, з 637 усіх населеных пунктаў Перапісу войска ВКЛ 1528 г. 77 (12,1%) цяпер знаходзяцца на сучаснай тэрыторыі Беларусі, 65 (10,2%) — Літвы, 486 (76,3%) — Польшчы, 2 (0,3%) — Расіі і 7 (1,1%) — Украіны.

Ствараючы дадзены геаграфічны паказальнік, мы кіраваліся не толькі пэўнымі археаграфічнымі традыцыямі, але і імкненнем па магчымасці максімальна павысіць яго інфарматыўнасць. Неабходнасць гэтага мы абгрунтавалі ў некалькіх сваіх адпаведных артыкулах (24—25; 27—28). Таму ён істотна адрозніваецца ад традыцыйных такіх паказальнікаў.

У дадзеным паказальніку ўлічаны ўсе геаграфічныя назвы, што адлюстраваны ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г., у той форме, у якой яны зафіксаваны ў гэтай крыніцы. Але, каб зменшыць яго аб'ём, усе геаграфічныя назвы, што ўтвораны ад асноўнай, улічаны ў асноўнай пазіцыі. Асноўныя ж назвы, калі

яны не супадаюць з сучаснымі, займаюць дадатковыя, спасылачныя, пазіцыі. Так, дадатковую, адсылачную, пазіцыю мае толькі "Новгородок", а ўсе ўтвораныя ад гэтай назвы ўключаны ў алфавітным парадку ў асноўную пазіцыю "Навагрудак". Толькі адзіную, асноўную, пазіцыю маюць таксама ўсе неідэнтыфікаваныя і нелакалізаваныя аб'екты.

У якасці гістарычнага каментарыя, каб даць максімальна магчымае поўнае ўяўленне аб тагачасных геаграфічных аб'ектах, амаль кожная асноўная пазіцыя суправаджаецца разнастайнымі звесткамі-каментарыямі, што маюцца ў самой крыніцы. У гістарычны каментарый уключаны розныя кантэкставыя даныя аб большасці з іх: 1 — тэрмін, што абазначае від аб'екта: "бояре", "воеводство", "волость", "двор", "замок", "земля", "имение", "парафия", "повет", "село", "хоружство" і т. п.; 2 — адміністрацыйна-судова-ваенна-тэрытарыяльная прыналежнаць: "воеводство", "волость", "земля", "повет", а таксама "парафия" як адзінка царкоўнага дзялення Бельскай зямлі Падляшскага ваяводства; 3 — прыналежнасць некаторых аб'ектаў дзяржаве ў асобе вялікага князя ("господара") — "господарскии".

Усе такія звесткі даём на мове крыніцы, г. зн. тагачаснай "рускай" мове.

Істотным адрозненнем дадзенага паказальніка ад традыцыйных з'яўляецца і тое, што яго важным атрыбутам, як мы ўпэўнены, служыць сціслы каментарый аб сучасным статусе і месцазнаходжанні тых населеных пунктаў, якія ўдалося ідэнтыфікаваць з існуючымі і лакалізаваць.

Пэўныя сучасныя звесткі аб назвах, месцазнаходжанні населеных пунктаў, іх статусе і іншыя мы атрымалі з розных даведнікаў, большасць якіх, на жаль, устарэла або няпоўная (1; 11—16; 41), а таксама карт (17; 19; 31). Неабходна падкрэсліць тое, што сучасныя каментарыі да населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь і асабліва Літоўскай Рэспубліні, хаця ў ёй праводзіцца рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення і ўведзена, у прыватнасці, новая адзінка — уезд ("apskritis"; 38—40), што ўлічана ў нашым паказальніку, даюцца пераважна на падставе менавіта ўстарэлых даведнікаў.

У адрозненне ад Беларусі і Літвы сучасная адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць гістарычных населеных пунктаў Падляшша добра адлюстравана на картах з паказальнікамі Любельскага (Люблінскага), Мазавецкага і Падляскага ваяводстваў (50—52), што былі выдадзены пасля ўвядзення з 1 студзеня 1999 г. у Рэспубліцы Польшча новага тэрытарыяльнага дзялення (32; 47).

Галоўная мэта сучасных каментарыяў — даць чытачу канкрэтнае ўяўленне аб сучасных не столькі статусе, колькі месцазнаходжанні гістарычных населеных пунктаў, што фігуруюць у Перапісе войска ВКЛ 1528 г.

Асноўная пазіцыя населеных пунктаў, якія ідэнтыфікаваны і лакалізаваны, уключае кароткія сучасныя даныя аб іх: 1 — назва на беларускай і рускай мовах, а таксама на мовах краін, дзе яны цяпер знаходзяцца; 2 — тып; 3 — адміністрацыйнае значэнне; 4 — адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць; 5 — дзяржаўная прыналежнасць; 6 — індэкс размяшчэння на адной з карт, што прыкладаюцца да дадзенай публікацыі: 1) Населеныя пункты, што ўпамінаюцца ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г. і 2) Населеныя пункты Падляшскага ваяводства, што ўпамінаюцца ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г. Неабходна заўважыць, што на гэтых картах абазначаны толькі тыя населеныя пункты, якія ўдалося ідэнтыфікаваць і лакалізаваць, акрамя Масквы. Абазначэнне яе на карце абумовіла б значнае павелічэнне яе фармата, што, на нашу думку, немэтазгодна.

Сучасны каментарый да такіх населеных пунктаў прыводзіцца на беларускай мове. Пры гэтым усе сучасныя іншамоўныя назвы паселішчаў звычайна транскрыбіраваліся на беларускую і рускую мовы іншы раз без уліку іх традыцыйнага напісання.

Такім чынам, напрыклад, у дадзеным паказальніку населеныя пункты адлюстраваны ў наступнай форме.

У Беларусі:
нелакалізаваны:
**Волневичи.** Новгородский б.
лакалізаваны:
Берестье *гл.* Брэст
**Брэст, Брест,** г., ц. р-на і вобл. РБ. Карта 1: В-2
берестейские б. Троцкого пов.
берестейские зем. Троцкого пов.
луцкий берестейский бискуп
Берестье

У Літве — адпаведна:
Жолдунское, с. Керновского пов. Виленский пов.
Вильна *гл.* Вільнюс
**Вільнюс, Вильнюс, Vilnius**, г., ц. у. і р-на, сталіца ЛР. Карта 1: В-4
виленский бискуп
Виленский великий сойм
виленский в-д.
виленский кравец
виленский пан
Виленский пов.
виленский тивун
виленьская воеводиная
Виленьский пов.

У Польшчы — адпаведна:
**Бискупки**, с. Яблонской пар. Бельской земли Подляшского в-д.
**Бельск Падляскі, Бельск Подляски, Bielsk Podlaski**, г., ц. Бельскай гм. і пав. Падляскага в-д. РП. Карта 1: В-2
Бельск
бельская войская
Бельская земля Подляшского в-д.
Бельская пар. Бельской земли Подляшского в-д.
бельские б.
бельские зем.
бельскии б.
Бельский пов. Подляшского в-д.
бельский судья

Ва Украіне:
**Бранники**. Волынская земля
Володымер *гл.* Уладзімір-Валынскі
**Уладзімір-Валынскі (Валадымыр-Валынськы), Владимир-Волынский (Володымыр-Волынськый), Володимир-Волинський**, г., ц. р-на Валынскай вобл. Украіны. Карта 1: Г-3
володымерский староста

Такім чынам, дзякуючы ўключэнню ў пазіцыі ідэнтыфікаваных і лакалізаваных населеных пунктаў кароткіх сучасных звестак аб іх, дадзены геаграфічны паказальнік пераўтвараецца ў сапраўдны паказальнік-каментарый. Такі паказальнік, як мы мяркуем, істотна дапаможа ўсім карыстальнікам арыентавацца ў геаграфічных рэаліях Перапісу войска ВКЛ 1528 г.

Усе асноўныя пазіцыі паказальніка-каментарыя маюць парадкавыя нумары, а асноўныя назвы набраны тоўстым шрыфтам.

Трэба адзначыць тое, што колькасць асноўных пазіцый паказальніка-каментарыя да населеных пунктаў (548) значна меншая колькасці апошніх (637), якія фігуруюць у Перапісе войска ВКЛ 1528 г. Гэта тлумачыцца пераважна тым, што, мяркуючы па сукупнасці даных выкарыстаных даведачных матэрыялаў, частка (89) гістарычных населеных пунктаў Падляшскага ваяводства з цягам часу злілася з пяцідзесяццю адным суседнім, кожны з якіх цяпер з'яўляецца адным паселішчам. Таму па некалькі (ад 2 да 10) такіх населеных пунктаў мы ўключылі ў асноўную пазіцыю пад адным нумарам.

У заключэнне выказваем шчырую падзяку сваім калегам Р. А. Аляхновіч, М. А. Вайтовічу, А. І. Грушу, Л. Ю. Міхайлоўскай, У. М. Свяжынскаму, В. І. Ходану, В. М. Цемушаву і А. С. Ціхановіч, а таксама літоўскаму калегу Д. Вілімасу, дзякуючы разнастайнай дапамозе каторых створаны дадзены геаграфічны паказальнік-каментарый да Перапісу войска ВКЛ 1528 г.

## Крыніцы, даследаванні, карты і даведнікі

1. Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 1—15. Мн., 1996—2002.
2. Боряк. "Пописы земского войска". С. 215—227.
3. Военно-топографическая карта России. 1:126 000. 1855—1875. Ряд X, листы 1—8; ряд XI, листы 1—9; ряд XII, листы 1—9; ряд XIII, листы 2—9; ряд XIV, листы 2—9; ряд XV, листы 1—10; ряд

XVI, листы 1—11; ряд XVII, листы 1—10, ряд XVIII, листы 1—10; ряд XIX, листы 1—9; ряд XX, листы 1—9.

4. Жучкевич В. А. Краткий топономический словарь Белоруссии. Мн., 1974. Приложение. С. 439—447 (Алфавитный указатель переименований за 1918—1973 гг.).
5. Литовская ССР. 1 : 600 000. М., 1956.
6. Літоўская ССР. 1 : 2 500 000 // БелСЭ. Т. 6. Мн., 1972. С. 400—401. Дадатак.
7. Любавский. Областное деление.
8. Ён жа. Политическая карта Литовско-Русского государства конца XV и начала XVI в. 1:2 520 000 // Ён жа. Областное деление. Приложение.
9. Ён жа. Сейм.
10. Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 1. Мн., 1996. С. 4—27.
11. Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.
12. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мн., 1980.
13. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981.
14. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мн., 1982.
15. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983.
16. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986.
17. Республика Беларусь. 1:400 000. Мн., 1992.
18. РИБ. Т. 33.
19. Рэспубліка Беларусь. 1:400 000. Мн., 1997.
20. Специальная карта Европейской России. 1: 420 000. Пг., 1915. Л. 4—7, 13—16, 27—30, 44.
21. Спиридонов М. Ф. Количество населенных пунктов, названных в поветах Великого княжества Литовского, полностью или частично находившихся на территории Белоруссии (По данным переписи войска Великого княжества Литовского 1567 г.). 1:2 800 000 // Ён жа. Исторический документ — для современной серии книг: Населенные пункты Белоруссии в переписи войска Великого княжества Литовского 1567 г. // Навіны Беларускай акадэміі. 1991. 28 чэрв.
22. Ён жа. Перепись войска Великого княжества Литовского 1567 г. как источник по истории поселений Белоруссии // Литовская Метрика: Исследования 1988 г. Сб. статей. Вильнюс, 1992. С. 96—111.
23. Ён жа. Беларусь в конце XVI в. 1: 1 000 000 // Ён жа. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993. Приложение.
24. Ён жа. Пути повышения информативности указателей населенных пунктов в публикациях источников по истории Великого княжества Литовского XVI в. // Тэзісы міжнар. навук.-тэарэтыч. канф. "Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы". 1—2 снежня 1993 г. Ч. 1. Мн., 1993. С. 74—79.
25. Ён жа. Узнаўленне публікацыі Метрыкі ВКЛ // Беларускі гістарычны агляд. 1996. Т. 3, сш. 2. С. 259—275. Рэц. на кн.: Литовская Метрика. Кн. 225: Кн. судных дел 6 (1528—1547) / Подгот. И. Валиконите, С. Лазутка и др. Вильнюс: Изд. Вильнюсского университета, 1995. 448 с.
26. Ён жа. "Литва" и "Русь" в Беларуси XVI в. // Наш радавод. Матэрыялы міжнар. навук. канф. "Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII—XX стст." (Гродна, 3—5 ліп. 1996 г.). Кн. 7. Гродна, 1996. С. 206—211.
27. Ён жа. Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г. // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 2. Мінск, 1997. С. 133—195.
28. Ён жа. Метрика Великого княжества Литовского как источник по истории поселений // Lietuvos Metrika. 1991—1996 metų tyrinėjimai. Vilnius, 1998. С. 115—133.
29. Топографическая карта. 1:200 000. 1980 і інш. О—34—XXXIV—XXXVI; О—35—XXXI—XXXVI; N—34—IV—VI, —X—XII, —XVII—XVIII, —XXIII—XXIV, —XXIX—XXX, —XXXV—XXXVI; N—35—I—XXXVI; N—36—I, —VII, —XIII—XIV, —XIX—XXI, —XXV—XXVII, —XXXI—XXXII; M—34—V—VI; M—35—I—VI; M—36—I.
30. Топографическая карта. 1:500 000. О—34—Г; О—35—В—Г; N—34—Б,—Г; N—35—А—Г; N—36—А,—В; М—34—Б; М—35—А,—Б; М—36—А.
31. Украіна: Оглядова мапа. 1:1 000 000. Київ, 1994.

32. Bochliński J., Zawadzki J. Polska: Nowy podział terytorialny. Przewodnik encyklopedyczny. Warszawa, 1999.
33. Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskiem w XV i XVI w. Warszawa, 1887.
34. Jakubowski J. Wielkie Księstwo Litewskie w połowie XVI w. Część północna. 1: 1 600 000 // Ён жа. Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVI w. 1. Część północna. 1: 1 600 000. Objaśnienie do mapy. Kraków, 1928. Dodatek.
35. Kamieniecki W. Chorążowie w parlamentaryzmie litewskim przed unią lubelską // Antemurale. R. 9. Roma, 1965. S. 165—203.
36. Laszuk A. Zaścianki i królewszczyzny. Struktura własności ziemskiej w województwie podlaskim w drugiej połowie XVII w. Warszawa, 1998.
37. Laszuk A., Adamczyk B. Województwo podlaskie w II połowie XVII w. Osadnictwo i struktura własności ziemskiej. 1:270 000 // Laszuk A. Zaścianki ... Dodatek.
38. Lietuvos Respublika. Administracinis žemėlapis. 1: 600 000. Riga, 1992.
39. Lietuvos Respublika. 1: 500 000. Riga, 1999.
40. Lietuvos Respublikos administracinis suskirstymas, 2000 m. 1: 400 000. Vilnius, 2000
41. Lietuvos TSR administracinio-teritorinio suskirstymo žinynas. 2 d. / Par. Z. Noreika ir V. Stravinskas. Vilnius, 1976.
42. Magni Ducatus Lithuaniae... 1: 1 293 000. Amsterodami, 1613 // Кордт В. Материалы по истории русской картографии. Вторая серия. Вып. 2: Карты всей России и западных ее областей до конца XVII в. Киев, 1910. № 13—16.
43. Mapa topograficzna. 1:200 000. 1985 і інш. N—34—XVII—XVIII, —XXIII—XXIV, —XXIX—XXX, —XXXV—XXXVI; M—34—V—VI.
44. Michaluk D. Ziemia mielnicka województwa podlaskiego w XVI—XVII w.: Osadnictwo, własność ziemska i podziały kościelne. Toruń, 2002.
45. Michaluk D., Wołowski K.W. Mapy 1—11 // Michaluk D. Ziemia... Załączniki.
46. Polska: Atlas samochodowy. 1: 300 000. Warszawa; Wrocław, 1992.
47. Rzeczpospolita Polska: Mapa administracyjna 1: 750 000. Wyd. 2. Warszawa; Wrocław, 1999.
48. Urzędnicy podlascy XIV—XVIII wieku. Spisy / Oprac. E. Dubas—Urwanowicz, W. Jarmolik, M. Kulecki, J. Urwanowicz. Kórnik, 1994.
49. Województwo bialostockie Mapa turystyczna. 1:180 000. Białystok, 1990.
50. Województwo lubelskie. Mapa administracyjno-drogowa. 1:200 000. Katowice, 2000.
51. Województwo mazowieckie. Mapa administracyjno-drogowa. 1:225 000. Katowice, 2000.
52. Województwo podlaskie. Mapa administracyjno-drogowa. 1:200 000. Katowice, 2000.

*Кандыдат гістарычных навук*
*М. Ф. Спірыдонаў*

164. **Залесе, Залесе, Zalesie,** в. Сямятыцкай гм. і пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: В-2. Вер.:
Залескии, зем., Дорогицкой земли Подляшского в-д. 125
Залескии Дорогицкой земли Подляшского в-д. 126 адв.
165. **Залесе Лабэндзке, Залесе Лабэндзке, Zalesie Łabędzkie,** в. Кабылінабажымскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Залесе, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 170
166. **Залесе Новэ, Залесе Новэ, Zalesie Nowe,** в. Шапятоўскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Залесных Вышенских, с. Вышенской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 193
167. **Залесе Старэ, Залесе Старэ, Zalesie Stare,** в. Вышкаўскай гм. Бельск пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Залесе, с. Топичевской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 140
Залескии *гл.* Залесе
Залесных Вышенских *гл.* Залесе Новэ
168. **Залужье** Полоцкой земли 221
Зарубы *гл.* Зарэмбы
169. **Зарэмбы, Зарэмбы, Zaręby,** в. Дзядкавіцкай гм. Сямятыцкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: В-2
Зарубы, зем., Дорогицкой земли Подляшского в-д. 127 адв.
Здроды *гл.* Здроды Старэ
170. **Здроды Старэ, Здроды Старэ, Zdrody Stare,** в. Пасьвентнскай гм. Беластоцкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Здроды, с. Плонской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 179 адв.
Зимнохи *гл.* Зімнохы
Зимнохи Суслы *гл.* Зімнохы Суслы
171. **Зімнохы, Зимнохы, Zimnochy,** в. Суражскай гм. Беластоцкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-3
Зимнохи, с. Саражской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 142 адв.
172. **Зімнохы Суслы, Зимнохы Суслы, Zimnochy Susły,** в. Суражскай гм. Беластоцкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-3
Зимнохи Суслы, с. Саражской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 143
173. **Зэмлы, Зэмлы, Zemły,** в. Макабодскай гм. Сядлецкага пав. Мазавецкага в-д. РП. Карта 2: Г-1
Жэмлы Дорогицкой земли Подляшского в-д. 126
174. **Ігнаткі, Игнатки, Ignatki,** в. Вышкаўскай гм. Бельскага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Кгнатове, с. Топичевской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 138 адв.
175. **Ідзькі Млыноўске, Идзьки Млыновске, Idźki Młynowskie,** в. Сакольскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Идыки, с. Соколовской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 162 адв.
Идыки *гл.* Ідзькі Млыноўске
176. **Кабоскі, Кобоски, Koboski,** в. Новапякуцкай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Скупеве Кобошки, с. Домановской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 195 адв.
177. **Кабылін Бажымы, Кобылин Божимы, Kobylin Borzymy**. в., ц. гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 1: В-2. Карта 2: А-2
Кобылино, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 172
Кобылинская пар. Бельской земли Подляшского в-д. 166
178. **Кабылін Крушэва, Кобылин Крушево, Kobylin Kruszewo,** в. Кабылінабажымскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Крушево, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 171 адв.
179. **Кабылін Пагажалкі, Кобылин Погожалки, Kobylin Pogorzałki,** в. Кабылінабажымскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Погорелка, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 172 адв.
180. **Кабылін Цяшымы, Кобылин Тешимы, Kobylin Cieszymy,** в. Кабылінабажымскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Тешимове, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. 172 адв.

285. **Ляшчылава, Лещилово,** в. Шайцераўскага сс. Верхнядзвінскі р-на Віцебскай вобл. РБ. Карта 1: Б-5
Лещиловичи. Полоцкий мщ. Полоцкая земля — 222 адв.
286. **Магяльніца, Могельница, Mogielnica,** в. Корчаўскай гм. Сакалоўскага пав. Мазавецкага в-д. РП. Карта 2: В-2
Могильницкии, зем., Дорогицкой земли Подляшского в-д. — 125 адв.
Майково *гл.* Мойкі
287. **Майшагала, Майшягала, Maišiagala,** м., ц. ап. Вільнюскага р-на і ў. ЛР. Карта 1: Б-3
мойшакголские б. Виленского пов. — 4 адв., 58 адв., 60
мойшакголский хор. — 58 адв.
Мойшокголский пов. Вилен пов. — 59 адв.
288. **Макова, Маково, Makowo,** в. Кабылінабажымскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: А-2
Маковских, с. Кобылинской пар. Бельской земли Подляшского в-д. — 172 адв.
Маковских *гл.* Макова
289. **Малеч, Малеч,** в., ц. сс. Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. РБ. Карта 1: В-3
Малеч. Кобрынский б. — 217
Малешевскии *гл.* Стара Малішэва
Малинаво *гл.* Малінова
290. **Малінова, Малиново, Malinowo,** в. Дзядковіцкай гм. Сямятыцкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: В-2
Малинаво Дорогицкой земли Подляшского в-д. — 128
Малки *гл.* Кукаўкі
Малюшычи *гл.* Малюшычы
291. **Малюшычы, Малюшичи,** в., ц. сс. Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. РБ. Карта 1: В-4
Малюшычи. Новгородский б. — 40
292. **Малявіцэ, Малевицэ, Malewice,** в. Дзядковіцкай гм. Сямятыцкага пав Падляскага в-д. РП. Карта 2: В-2
Молевскии, зем., Мельницкого пов. Подляшского в-д. — 124 адв.
Маковских *гл.* Макова
293. **Маркава, Марково,** в., ц. сс. Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. РБ. Карта 1: Б-4
Марково, дв. гос. Виленского пов. — 4 адв., 42
марковские б. — 42 адв.
294. **Маркова, Марково, Markowo,** в. Браньскай гм. Бельскага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Марково, с. Домановской пар. Бельской земли Подляшского в-д. — 196
Марково *гл.* Маркава
Марково *гл.* Маркова
295. **Марсково** Дорогицкой земли Подляшского в-д. — 127
296. **Масква, Москва,** г., ц. вобл., сталіца Расійскай Федэрацыі.
Москва — 14 адв.
Матешычи *гл.* Мацёшыцы
297. **Мацёшыцы, Матёшицы,** в. Руткаўскага сс. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. РБ. Карта 1: В-3
Матешычи. Новгородский б. — 40 адв.
298. **Мачурскии,** зем., Дорогицкой земли Подляшского в-д. — 127 адв.
299. **Мачыдлы Якубавента, Мочидлы Якубовента, Moczydły Jakubowięta,** в. Шапятоўскай гм. Высокамазавецкага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2
Мочидлове, с. Яблонской пар. Бельской земли Подляшского в-д. — 183 адв.
300. **Межвін Малы, Межвин Малы, Mierzwin Mały,** в. Вышкаўскай гм. Бельскага пав. Падляскага в-д. РП. Карта 2: Б-2. Вер.:
Мирвино Якшовята, с. Топичевской пар. Бельской земли Подляшского в-д. — 141 адв.
Мирвинских Бартошовят, с. Топичевской пар. Бельской земли Подляшского в-д. — 141
Мединкгоны *гл.* Мядзінгенай
Медники *гл.* Мядзінінкай
Медынкгоны *гл.* Мядзінгенай
Медусове *гл.* Мядусы Дваракі

